


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3252) Год LXIII | Беласток, 9 верасня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Крынкі па-дзевятнаццатаму

# Беларус адрынуты ці ў іміграцыі ўнутры сябе

Такія дыскусіі пачаў у родных Крынках вядомы беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч. Засяроджваліся яны на працягу многіх гадоў вакол беларускай літаратуры. Фонд «Віла Сакратас» са сваім шэфам, сусветнавядомым мастаком Лявонам Тарасэвічам, змяніў крыху іх формулу. На сустрэчах у Крынках (сёлета 31 жніўня — 1 верасня) кранаюць яны іншыя галіны культуры і грамадскага жыцця, але надалей галоўным іх ядром з'яўляюцца беларусы і беларушчына. Следам за Сакратам Яновічам інтэлектуалы, пісьменнікі і мастакі чарговы раз дыскутавалі пра беларушчыну, сёлета — аб эміграцыі, дыяспары і актыўнасці беларусаў па-за сваёй радзімай. **Лявон Тарасэвіч** лічыць, што сёння беларуская культура суствараe еўрапейскую і сусветную культуру. «Пакуль будзе Лукашэнка, ніколі не будзе беларусізацыі ў Беларусі. Усіх нас можа ўратаваць распад Расіі», — казалі ўдзельнікі дзевятнаццатага Трыялогу ў Крынках. Лявон Тарасэвіч адзначыў: «Мы інтэлектуальныя мігранты, а не палітычныя ці эканамічныя. Калі адчуваеш сябе жыхарам Еўропы — у інтэлектуальным сэнсе няма ніякіх межаў».

«Тэма сёлетняга Трыялогу наўмысна неадназначная. Справа ў тым, што неадназначным з'яўляецца і само англійскае паняцце „outside", якое адрозніваецца ад тэрміну „abroad". У прынцыпе, гэтае першае паняцце азначае, што нехта або нешта знаходзіцца „па-за", „звонку", „на ўзбочыне". Па-беларуску, як дарэчы і па-польску, аднак у англійскім маўленні „аўтсайдар" адназначна схіляецца ў бок нечага або некага хто „адстае", „не паспявае", не адпавядае пэўнай цэласнасці або катэгорыі. Для мяне тэма „Беларусь звонку" прыводзіць на думку некалькі аспектаў на якія я хачу звярнуць увагу. На мой погляд, тэма ўказвае ў першую чаргу на: наяўнасць вялікай, беларускай эміграцыі і дыяспары; наводзіць на думку ступень прысутнасці і актыўнасці беларусаў і іх культуры ў свеце; указвае на факт, што Беларусь прасоўваюць і прапагандуюць у свеце гэтак даўнія, як і цяперашнія выдатныя людзі ў розных дзялянках; Беларусь з'яўляецца аб'ектам жывога і бескарыслівага зацікаўлення і даследаванняў з боку многіх аўтарытэтных замежных беларусістаў у пары дзясяткаў важных краін свету; па прычыне свайго палітычнага выбару краіна з'яўляецца аўтсайдарам у многіх галінах, застаецца маргіналізаваным выродкам і парыем... *(частка тэксту Кастуся Бандарука; вельмі багатае ў прыклады выдатных нашых «аўтсайдараў», вядомых і цэненых у свеце эсэ будзе надрукавана ў новым нумары «Году Беларускага / Annus Albaruthenicus»).*

У дыскусіі (мадэратар Яраслаў Іванюк) прынялі ўдзел — у панэлі пра літаратуру: Уладзіслаў Ахроменка, Павел Касцюкевіч, Ян Максімюк, Сяргей Шупа, у панэлі пра СМІ — Мікалай Ваўранюк, Сяргей Дубавец, Павел Мажэйка, пра культуру — Алена Макоўская, Валянцін Акудовіч, Андрэй Дурэйка, пры бурным удзеле слухачоў, якім дарагія ідэі Сакрата Яновіча, пісьменніка і мысляра, заснавальніка Фонду, арганізатара Беларускіх трыялогаў, выдаўца «Году Беларускага», настаўніка пакаленняў беларусаў не толькі Беласточчыны.



Яраслаў Іванюк, Андрэй Дурэйка, Лявон Тарасэвіч, Валянцін Акудовіч, Алена Макоўская

У першых дэбатах як асноўныя ўдзельнікі панэльнай дыскусіі прынялі ўдзел Уладзіслаў Ахроменка — празаік, журналіст, піяніст, пражываючы ў Чарнігаве ва Украіне, Павел Касцюкевіч — мінскі празаік, перакладчык, дырэктар кнігарні «Ў», Ян Максімюк — перакладчык, лінгвіст, журналіст (працуе з Радыё Свабода, у мінулым таксама журналіст тыднёвіка «Ніва») і Сяргей Шупа — незалежны гісторык, перакладчык, журналіст Радыё Свабода. Адказваючы на пытанне вядучага панэлі (і іншых) журналіста Радыё Беласток **Яраслава Іванюка** пра тое, адкуль у беларусах ёсць спасылкі на найбольш вядомых прадстаўнікоў сваёй нацыі, **Сяргей Шупа** не сумняваўся: «Гэта натуральная патрэба кожнага чалавека і грамадства. Павышае самаацэнку, асабліва калі ў такіх народаў, як беларусы, маюцца комплексы. Гэта наблітуе Беларусь у іх уласных вачах. Дадаў прытым, што паўсюдна па-за межамі (прынамсі ва Украіне) беларусы атаясамліваюцца выключна з Лукашэнкам. У самой Беларусі беларуская літаратура гэта не бізнес. Выходзяць малымі тыражамі, у кнігарнях ставіцца на малых палічках у кутку. Калі ў гэтых адносінах нічога не зменіцца на дзяржаўным узроўні, будзе заставацца ў сферы вядзення партызанскай вайны. Дзяржава маргіналізуе гэтую літаратуру». І дадаў крыху пазней: «Трэба ўсё ж быць асцярожным у выкарыстанні прыметніка «этнічны» ў адносінах да літаратуры». **Павел Касцюкевіч** не скрываў, што беларуская літаратура не прабіваецца ў свеце, а тыя беларускія пісьменнікі, якім гэта ўдаецца, з'яўляюцца паспяховымі — рускамоўныя, як адзіная беларуская лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч: «Трэба задумацца пра тое, як дамагчыся гэтага, каб пра нас гаварылі, але гэта трэба будаваць на беларушчыне. Беларуская літаратура найбольш цікавіць суседзяў Беларусі і немцаў». Спасылаўся, аднак, на вельмі радкае з'яўленне беларускай літаратуры на перакладчыцка-выдавецкім рынку ў Польшчы, Украіне і Літве на працягу апошніх двух гадоў. Абапіраўся на меркаванні, згодна з якімі Еўропа зацікавілася б беларускай літаратурай, калі б у Беларусі адбыўся Майдан, як ва Украіне. «Як брэнд сама па сабе беларуская літаратура нецікавая для Еўропы... У Беларусі павінен узнікнуць Інстытут беларускай кнігі, які дапамагаў бы выдаўцам (напрыклад, па мадэлі нацыянальнай установы Інстытуту кнігі ў Польшчы). Без дзяржаўнай падтрымкі стварэнне такога інстытута не ўяўляецца магчымым». **Ян Максімюк**, у мінулым журналіст «Нівы», адзначыў, што нават калі кнігі беларускіх пісьменнікаў перакладзеныя і апублікаваныя, і так не трапляюць да шырокай аўдыторыі, таму што кульгаюць размеркаванне і прасоўванне, не пішуць пра іх рэцэнзенты. Так было, у прыватнасці, з серыяй, у якой з'явіўся цэлы шэраг кніг сучаснай беларускай літаратуры, выдадзеных Калегіумам Усходняй Еўропы. У сваю чаргу, беларуская беларускамоўная літаратура, якая выдаецца нават у Беластоку (напрыклад, тыднёвікам беларусаў у Польшчы «Ніва») не перабіраецца за межы беларускага асяроддзя Беласточчыны. Бачыцца нашу літаратуру як задыхаючуюся ва ўласным саку. Малацікавую, засценкавую, мала адкрытую на еўрапейскі кантэкст».

Са свайго боку сказала я некалькі слоў у дыскусіі, якія папаўняю зараз кораценька заўвагамі наконт пачутага : Мы тут згадвалі пра «Ніву», якая быццам бы стала іншай, і неабходнасць таксама лідараў, якія гуртавалі б вакол сябе такіх жа «аўсайдэраў» і вялі сваю палітыку хоць бы ў друку, на такой «выспе». «Ніва» ўзнікла ў 1956 годзе. І быў там рэдактар Юрка Валкавыцкі, які назалежна ад таго, што «Ніва» была ў партыйным голдынгу, і незалежна ад пылітычных умоў і цэнзуры — вёў сваю выдавецкую, беларускую палітыку, друкаваў тэксты якія не друкаваліся ў Беларусі, напрыклад пра нашаніўскую пару, друкаваў тэксты нават тут прысутных літаратараў з «Тутэйшых», тады яшчэ малавядомых, прыцягваў да «Нівы» такіх жа «аўтсайдэраў», дазваляў на разхвой. На «Ніву» можна было ў Беларусі падпісацца. Цяпер мы не маем доступу да падпіскі чытачоў у Беларусі. Але кожны зацікаўлены можа прачытаць яе ў інтэрнэце. Сяргей Дубавец сказаў, што «Ніва» стала іншай, нецікавай для беларускага чытача, але я лічу, што яна далей культурна-стваральны цэнтр і вядзе сваю палітыку таксама ў друку. Стварыла сваю бібліятэку, а літаратурны семінар «Бязмежжа», з'яўляецца агульнабеларускай літаратурна-культурнай каштоўнасцю. Нельга забываць пра звыш шасцідзесяцігадовую ролю «Нівы» ў мінулым і сёння для агульнабеларускай журналістыкі, літаратуры, культуры, ролю Юркі Валкавыцкага і ўсіх сяброў Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». А кнігі нашых літаратараў маюць прызнанне і заўважаюцца ў цэнтры — Міхась Андрасюк узнагароджаны прэміяй «Заталога апострафа», быў сябрам журы прэміі Гедройца ў мінулым годзе. Мая кніга для дзяцей «Спеў дрэў» была намінавана да Прэміі Цёткі, а кніга Ганны Кандрацюк — сярод лідэраў да Прэміі Гедройца. Нашы аўтары друкуюцца ў найбольш аўтарытэтным літаратурным часопісе Беларусі «Дзеяслове».

— Тое, што культывуецца дзяржаўнымі СМІ ў Беларусі, гэта не журналістыка, а прапаганда, падмацоўванне дзяржаўнай ідэалогіі, — заявіў у дыскусіі пра СМІ **Сяргей Дубавец**. — Усе незалежныя журналісты ў Беларусі, недзяржаўных СМІ кіруюцца толькі місіяй. Праблема заключаецца ў тым, што беларусы прымаюць рускую гісторыю. Трактуюць усіх гэтых Іванаў Жахлівых як сваіх. Гісторыя гэта тое, што найважнейшае і праз адукацыю можа паўплываць на нашу свядомасць, самаадчуванне. У Поль-

працяг ☞ 10





# Няма таго...

Кожны з нас з гадамі абавязкова хоча некуды вярнуцца. Нехта ў сваю маладосць, нехта нават у дзяцінства, калі больш рэалістычна — у родныя мясціны, у тыя гарады, вёскі ці мястэчкі, дзе душу павінны сагрэць цёплыя і сентыментальныя ўспаміны пра былыя вандроўкі, прыгоды, каханне, сяброў маленства.

Але, як сказаў класік, няма таго, што раньш было. Нікому яшчэ не ўдавалася „скінуць” са свайго веку хоць бы пару гадоў, не тое што дзесяцігоддзе ці два. Жыццё не стаіць на месцы, навукова-тэхнічны прагрэс сямімільнымі крокамі апярэджвае тых, хто ўжо не можа ніяк паспець за новымі тэхналогіямі і „наваротамі”, як кажа моладзь. Тое, што яшчэ ўчора здавалася нам нейкай фантастыкай і неверагоднасцю, сёння ўжо безнадзейна састарэла, а бальшыня той тэхнікі ўжо пайшла на металалом і ў сметніцу. Сённяшнім дзецям, прыкладам, ужо цяжка растлумачыць, што такое камп'ютарная дыскета ці пейджар. Адышлі ў нябыт бабінныя, касетныя і відэамагнітафоны, грувасткія калонкі для ўзмацнення гуку і агромністыя цяжэрныя „тоўстыя” тэлевізары. Адыходзіць і спыняецца вытворчасць кнопкавых тэлефонаў, якія застаюцца яшчэ толькі ў людзей пенсійнага і сталага веку. З усяго старога вяртаецца толькі пэўная папулярнасць вінілавых пласцінак — але гэта хутчэй як рэтра — для эстэтаў і калекцыянераў. Ну хоць нешта са старых калекцый можна пакінуць.

Імклівa мяняецца, мадэрнізуецца і аблічча нашага сумежжа — пачынаючы ад граніц, якія ніяк не спрашчаюцца, а хутчэй ускладняюцца, заканчваючы вуліцамі гарадоў. Узяць хоць бы ранейшую Юравецкую вуліцу ў Беластоку і яе, яшчэ зусім нядаўна знакаміты аднайменны рынак. Юравецкі рынак меў не толькі свой непаўторны гандлёвы каларыт і эстэтыку знасін пакупнікоў з прадаўцамі, гэта яшчэ быў сапраўдны транзітны мост паміж Беластокам і Гроднам. Можна прыгадаць як адсюль у горад над Нёманам можна было ад'ехаць у кожны час дня і ночы. Называлася гэта „ехаць на падсадку”. Але ўжо і следу няма ад таго Юравецкага рынку, а яго месца займаюць сучасныя агромністыя гмахі. Многа чаго памянялася і ў Гродне за гэты час — у горадзе шмат што перабудавалася, упарадкавалася, нешта пахарашэла, але нешта незваротна і знікла. Асабліва паменела разгалінаваных дрэў — у некаторых месцах іх павыцінaлі зусім, а ў іншых замянілі на новыя, нейкія чужародныя куртатыя прысады. Беласток ці Брэст у гэтым сэнсе куды больш зялёныя. Яшчэ адно адрозненне Беластока — у ім куды больш дробнага гандлю — на вуліцах горада можна купіць смачныя хлеб з дробных пякарняў, разнастайныя шынкі, каўбасы і іншыя мясныя прысмакі з прыватнай сельскай гаспадаркі. У горадзе над Нёманам такога няма, увесь гандаль тут канцэнтруецца ў дзяржаўных крамах і гандлёвых сетках-монстрах-супермаркетах.

Найбольш кансерватыўнай на нашай транспамежнай прасторы застаецца, хіба, Вільня. Там на старых вуліцах і крывых завулках час нібыта застыў. І ідзеш па якой-небудзь Завальнай, як сто і больш гадоў таму хадзілі Іван Луцкевіч, Максім Багдановіч, Якуб Колас ды іншыя знакамітыя беларусы. Толькі што назвы вуліц іншыя, на чужой мове, многія зменены да непазнавальнасці. Але ў пэўным сэнсе Вільня і здзіўляе, маю на ўвазе неразвітасць прывакзальнага сэрвісу ў розных сферах. Нібыта такая свабода для малога прыватнага бізнесу, а асаблівай прадпрымальнасці не заўважаецца. Ад гарадоў на тэрыторыі Польшчы і нават Беларусі сённяшняя сталіца Літвы адрозніваецца ў гэтым сэнсе ў горшы бок. Затое захоўвае гістарычны дух даўніны, так мілы настальгічнаму сэрцу.

Няма ранейшага і ў мясцінах нашага дзяцінства-юнацтва. Нішто не стаіць на месцы — няма найперш многіх людзей, якіх вы ведалі, з многімі шмат размаўлялі, некаторых любілі. Няма таго аблічча нашых вёсак і мястэчак, няма многіх дамоў, старых паркаў і садоў, нават некаторых вуліц. Такая няўмольная логіка жыцця — усё цячэ, усё мяняецца...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дух імпасібілізму

Толькі веданне самагонаварэння акупляецца — іранізаваў я калісьці ў ходзе дыскусіі з юнымі сябрамі. Нешта было ў гэтай іроніі, а, можа, сарказме, бо як нaзіраю сёння, веды самі па сабе бездапаможныя перад чалавечай стыхіяй. Як тузалі ім, так і тузаюць сёння тыя ж прымітыўныя пазывы, што заўсёды. Нічога не змяняецца ў гэтых адносінах, хоць мы лётаем у космас, быццам я на маім ровары да крамы ў Нарве са сваёй падпушчанскай вёскі. І ўвесь час кругаля, таму што ўсё чагосьці не хапае ў халадзільніку. Але муха-падальніца таксама даследуе нашы дамы поўныя шыкоўных плазмавых тэлевізараў і ноўтбукаў. І ведае яна столькі пра функцыянаванне гэтых тэхналагічных цацачак, што большасць з нас — амаль нічога. Іншая справа — ровар. Яго фізічную механіку, думаю, усе разумеюць. Акрамя таго, што эпоха ровара ўжо даўно прайшла. Мы жывем у эпоху мабільнага тэлефона або GPS-навігатара. Але хто ведае, як яны працуюць? Мала хто ведае. У глабальным маштабе можа толькі адзін працэнт насельніцтва. Уключаем і выключаем штосьці, што пераўзыходзіць наша разуменне. І гэта незалежна ад месца, няхай гэта будзе Гайнаўка ці Варшава, ці той Нью-Йорк. Гэта як гульня малпаў... узведзенай гранатай. На 99 адсоткаў мы — малпы.

Малпаў, асабліва прыматаў, амаль усіх праглынула бессэнсоўная чалавечая цывілізацыя. Асталося іх крыху ў заапарках. Там падглядваем іх гарэзлівыя і часам непрыстойныя паводзіны. З-за крат плююць яны з задавальненнем на чалавечых разявак, выкручваюць да нас іх дурныя міны, абкідваюць фекаліямі. Кірує імі глыбокі гнеў на людзей. Калі б толькі яны маглі гаварыць... Але ці сказалі б нешта іншае, чым людзі?

Турбуюць мяне камары-словы. Брыдкія словы. Усё больш і больш іх вакол. Аднак, праблема заключаецца не ў артыкуляцыйным схамленні публічнай мовы... Хоць, чаму б і не?! Гэта таксама коле, украпліваe ў грамадскі крывацёк яд нянавісці і пагарды. Згодна з кітайскай прымаўкай, тысяча камароў раніць глыбей, чым кіпцюр раз'юшанага тыгра. Не баймася тыграў, баймася камароў. Гэта, як той казаў, аказвае ўплыў на тое, што мы робім. Робім штораз горш. Тым больш пераймае мяне лінгвістычнае апаганьванне. Абсела яно чалавечыя раты роем паклёпаў, абразы, праклёнаў. Столькі гэтага ў польскім дзеянні. Усё, здаецца, існуе па-над нашымі галовамі, па-за нашай свядомасцю. Тырчым у Недарэчнасці, у Нерэальнасці.

Так вось дзееца... Працэсы сацыяльных і маральных змен у краіне занадта дынамічныя, каб мець магчымасць тут і цяпер іх вызначыць; неяк увесці іх у кагнітыўныя структуры. Мы ведаем усё менш і менш, менш і менш разумеем. Тое, што рэальнае, адарвалася ад нас, мы адсталі ад рэальнасці. Наша экзістэнцыя ў Ілюзіі. Пытанне, ці адбываецца гэта толькі ў Польшчы, дзе пост-праўда, пост-логіка праз нахабную рыторыку кіруючай партыі размазала памежныя лініі паміж Выдумкай і Рэальнасцю? Рад грамадска-палітычных падзей ва ўсім свеце паказвае, што не толькі. Я не драматызую, але ці чалавецтва не стаіць на абрыве? А Польшча? Можа быць, прыйшоў час, каб спыніць гэты бессэнсоўны марш да разбурэння і азірнуцца з одумам назад?

Давайце пачнем з агульнай мовы, ад языка, які стаў падвойным, як у змяі. Дыскусія прыхільніка ПіС і яго праціўніка нагадвае размову кітайца з японцам. Адзін аднаго не зразумеюць. Хоць у выпадку польскіх грамадзян палітычна раз'ятраных паказвае на пэўны ўзровень згоды. Гэта эмацыйныя выпады. Аргументы не маюць ніякага значэння. Што ж тычыцца японцаў і кітайцаў, гэта крыху па-іншаму. У сваіх мемуарах апошні імператар Кітая Пу цытуе асаблівы дыялог, які адбыўся паміж ім і японскім адміралам. Ён адбываўся... у поўнай цішыні! «Мы выдатна размаўлялі знакамі, таму што я не гавару на японскай мове, а адмірал — па-кітайску» — каменціраваў імператар. Там павінна быць невялікае тлумачэнне. Кітайскія і японскія каліграфічныя сімвалы ў любым выпадку не эквівалентныя літарам алфавіту ў еўрапейскіх мовах. Яны самі з'яўляюцца носьбітамі сэнсаў, паняццяў. Маючы супольныя моўныя карані, у канчатковым паддаліся фанетычным дэфармацыям у такой ступені, што вымаўленне адрозніваецца амаль як паміж германскімі і славянскімі мовамі. Сэнс знакаў захаваў ідэнтычную пераемнасць. Яны запісваюцца амаль аднолькава на японскай і кітайскай мовах. Калі б так у раздвоенай польскай мове знайсці такі знак — знак праўды.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Беларуская мара
## — праца і кватэра за мяжой

У апошнім часе амаль няма тыдня, каб нехта знаёмы з Беларусі не пытаў мяне ці сяброў, ці не чулі мы пра нейкую працу для іхніх сямейнікаў, а нават для іх саміх. Некаторыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь рознага ўзросту і розных прафесій, ад рабочых па навукоўцаў, прыходзяць непасрэдна ў нашу рэдакцыю, спадзеючыся на нашу дапамогу ў вырашэнні ўсіх адміністрацыйных працэдур, звязаных з пераездам на пастаяннае жыхарства ў Польшчу. Прыходзячы ў рэдакцыю «Нівы», усе яны адразу з дзвярэй дэкларуюць пра свае польскія карані і тым самым пытаюцца пра магчымасці і шанцы атрымання Карты паляка для сябе, сваіх дзяцей і ўнукаў. Запушчаная ў міждзяржаўны кровазварот польскімі ўладамі на ўсход ад сваёй мяжы палітыка прываблівасці і заахвочвання да польскасці прыносіць плён у выглядзе павышанай міграцыі з гэтых краін. Зразумела, сітуацыя выглядала б інакш, калі б палітычна-гаспадарчае становішча ў Беларусі ці Украіне было б лепшае ад сённяшняга, крызіснага моманту ў жыцці гэтых краін. Таксама ў плане звычайнага перасякання мяжы дакумент з Картай паляка дае яе ўласніку маральную і рэальную пашпартную перавагу над грамадзянінамі-непалякамі. Пачынаецца ўсё з мяжы, аж да далейшага і паўнейшага прыцягвання да польскасці і міграцыі сюды патрэбнай рабочай сілы і прыкладна маладых, адукаваных мазгоў на патрэбы пастаяннага тэхналагічнага прагрэсу ў Польшчы і Еўропе.

Спачатку для беларускай дзяржавы эканамічная і палітычная эміграцыя была да барабана. Між іншым свой шанц на спакой і вечную ўладу Аляксандр Лукашэнка і яго хаўруснікі бачылі ў тым, каб усіх актыўных выпурыць за мяжу і хай адтуль засылаюць яны долары ці еўра сваім сямейнікам, не будучы ў рэальным курсе грамадска-палітычных працэсаў. Блізарукасць такой палітыкі зараз аж надта відавочная.Ператасоўкі на пасадах у тым самым верхнім эшалоне ўлады, карупцыйныя працэсы і памілаванні паказваюць на адно: адставанне беларускай канкурэнтаздольнасці і крэатыўнасці ў большасці структур грамадска-эканамічнага жыцця краіны. І нават беларускія інфарматыкі ці спецыялісты па камп'ютарных гульнях і тэхналогіях свае бізнесы і ідэі адпрадаюць звычайна міжнародным ігракам на гэтым рынку. Самі не ідуць на самастойнасць развіцця беларускага бізнесу, не жадаючы ўваходзіць у непазбежныя канфлікты з дзяржаўнай падатковай машынай краіны. Бо кожны бачыць і разумее, што бізнес па-беларуску гэта павышаная рызыка хутка апынуцца нават у турме за прыдуманыя справы. Таму многа дзелавітых людзей пaціху з'язджае з Беларусі або спачатку пераносіць свае бізнесы ў суседнія еўрасаюзныя краіны. За такімі крокамі ідуць і канкрэтныя інвестыцыі ў гаспадаркі гэтых жа краін. Тут на кожным рынку маёмасці вельмі відавочныя грошы грамадзян Беларусі ці Украіны.

Для прыкладу, у Польшчы сярод прадстаўнікоў народаў купляючых найбольшую плошчу жыллёвых кватэр трэці год запар на першым месцы знаходзяцца ўкраінцы. У 2017 годзе набылі яны кватэры агульнай плошчай у 70 тысяч квадратных метраў. Пры сярэдняй плошчы кватэры 59 кв. м. дае гэта ў сярэднім 1191 набытую кватэру. Вядома, што яшчэ ёсць і нефіксаваны рынак такіх пакупак. Не гаворачы ўжо пра зняты грамадзянамі з Усходу кватэры, якія ў большасці здаюцца без афіцыйна рэгістраваных дамоў у польскіх падатковых палатах. Тут напэўна размова ідзе пра тысячы кватэр, бо паводле афіцыйных статыстык Польскага нацыянальнага банка ў 2017 годзе ў Польшчы прабывала 900 тысяч украінскіх грамадзян.

На чарговых месцах сярод пакупнікоў польскіх кватэр знаходзіліся немцы, брытанцы, беларусы, французы. Паводле даных за 2018 год вынікае, што беларусы неўзабаве ўскочаць на трэцяе месца па куплі кватэр. Абазначае гэта, што ў першай тройцы было б аж двое ўсходніх суседзяў Польшчы.

Тое, пра што пішу — ужо моцна заўважная і адчувальная з'ява ў самім Беластоку. Знаёмыя распавядаюць, што менавіта набытчыкі кватэр з Беларусі ад некалькіх гадоў гэта ўжо трывалая тэндэнцыя на беластоцкім маёмасным рынку. Запасны варыянт для ўцякання з Беларусі гэта ўжо справа не толькі сталічнай Варшавы, але і нашага правінцыйнага Беластока.

**Яўген ВАПА**

# НАБЛІЖАЮЦЦА САМАЎРАДАВЫЯ ВЫБАРЫ

**Самаўрадавыя выбары адбудуцца 21 кастрычніка гэтага года. Будзем выбіраць гмінных, павятовых і ваяводскіх радных. Адбудзецца таксама першы тур выбараў войтаў, бургамістраў і прэзідэнтаў гарадоў, якія паводле новага выбарчага закона будуць выконваць свае абавязкі 5 гадоў, а не 4 гады, як было дагэтуль. Раней многа кандыдатаў на радных, войтаў і бургамістраў на Беласточчыне балатавалася са спіскаў Беларускага выбарчага камітэта, а ў Гайнаўскім павеце пазней з Беларуска-народнага выбарчага камітэта. Сёлета, так як і на апошніх самаўрадавых выбарах, не прадугледжвалася рэгістраваць беларускія камітэты. Прадбачваецца, што беларусы прымуць удзел у бліжэйшых выбарах як кандыдаты ад розных выбарчых камітэтаў і партыйных спіскаў.**

Калі прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі абвясціў дату самаўрадавых выбараў на 21 кастрычніка гэтага года, тады афіцыйна пачалася выбарчая кампанія. Пазней адбылася рэгістрацыя выбарчых камітэтаў. Да 26 верасня тэрытарыяльным выбарчым камісіям будуць прад'яўлены кандыдаты на войтаў, бургамістраў і прэзідэнтаў гарадоў.

### У Гайнаўскім павеце

У Гайнаўскім павеце ў мінулым радныя выбіраліся ад Беларускага выбарчага камітэта, які пасля наладзіў супрацу з сялянскай партыяй PSL і пераўтварыўся ў Беларуска-народны выбарчы камітэт. Апошні раз БНВК ішоў на выбары ў 2006 годзе. Ужо ў 2010 годзе кандыдаты на радных пайшлі да выбараў ужо як кандыдаты іншых выбарчых камітэтаў. Прадбачваецца, што так будзе таксама на бліжэйшых самаўрадавых выбарах.

Новым перадвыбарчым здарэннем у Гайнаўскім павеце была рэгістрацыя ў канцы жніўня новага агульнапавятовага камітэта — Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Наш павет Гайнаўка». Зарэгістраваў яго староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк. У мінулым два разы выбіраўся ён павятовым радным ад Беларуска-народнага выбарчага камітэта і два разы павятовым радным са спіска сялянскай партыі PSL, хаця да гэтай партыі не належаў. Гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк паінфармаваў наш тыднёвік, што гэта не была змена назвы старога камітэта, але рэгістрацыя новага Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Наш павет Гайнаўка», які ствараецца ад асноў. Староста Міраслаў Раманюк узначальвае гэты камітэт і мае намер перш за ўсё рэгістраваць кандыдатаў на радных да Рады Гайнаўскага павета.

— У Гайнаўскім павеце ёсць месца для грамадскіх выбарчых камітэтаў, у якіх маецца многа магчымасцей. Працуючы на пасадзе старасты Гайнаўскага павета, я пазнаёміўся з многімі патрэбамі нашага павета і хацеў бы прадоўжыць кіраванне паветам і давесці да канца пачатыя інвестыцыі. Ёсць асобы, якія хацелі б балаціравацца разам са мной падчас бліжэйшых выбараў як кандыдаты на павятовых радных з новазарэгістраванага Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Наш павет Гайнаўка» і пазней супольна разгортваць дзейнасць на карысць павета. Як староста я кіраваў развіццём павета апошнія чатыры гады і хацеў бы завяршыць мадэрнізацыю дарог, павятовай бальніцы і школьных будынкаў, камасацыю палёў у паасобных вёсках, а таксама плануем рэалізаваць турыстычныя інвестыцыі. Мы засяроджваемся на кандыдатах да Рады Гайнаўскага павета, але можам прад'явіць таксама ад нашага выбарчага камітэта кандыдатаў на гарадскіх радных у Гайнаўцы і кандыдатаў на вясковых гмінных радных. Пакідаем таксама магчымасць прад'явіць ад нашага камітэта кандыдатаў на бургамістра Гайнаўкі або войтаў гмін на Гайнаўшчыне, — сказаў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк.



Староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк

У Гайнаўцы за пасаду бургамістра будуць змагацца прынамсі тры кандыдаты. Ужо раней на сесіі Рады горада цяперашні бургамістр Ежы Сірак дэклараваў, што будзе кандыдатам на бургамістра на чарговы тэрмін і пацвердзіў гэта пазней. На пасадзе бургамістра Ежы Сірак працуе каля васьмі гадоў. У 2014 годзе балатаваўся ад Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Самаўрадавае паразуменне „Гайнаўская зямля"». Пазней аб рашэнні балатавацца на пасаду бургамістра ад Грамадзянскай кааліцыі, якой галоўнымі стваральнікамі з'яўляюцца партыі Грамадзянская платформа і Навачэсна, заявіла намесніца старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская — ад чатырох гадоў павятовая радная, выбраная са спіска камітэта Грамадзянскай платформы.

— Мой намер балатавацца на пасаду бургамістра Гайнаўкі не накіраваны супраць нікога і нічога. Кожны выбарчы камітэт мае права выставіць свайго кандыдата на бургамістра горада і я згадзілася стаць кандыдатам ад камітэта «Грамадзянская кааліцыя». У мяне раней не было такога, але многа асоб і асяроддзяў выступіла да мяне з прапановай стаць кандыдатам на бургамістра. Пасля двух гадоў працы на пасадзе віцэ-старасты Гайнаўскага павета я дайшла да вываду, што магла б прымяніць здабытыя ўмеласці і вопыт у карысць горада і рашылася прыняць прапанову стаць кандыдатам на бургамістра нашага горада. Маючы на ўвазе, што ў Гайнаўцы нямнога асоб прымае ўдзел у самаўрадавых выбарах, я хачу давесці да таго, што тыя, якія не вераць у змены, пойдуць падчас бліжэйшых самаўрадавых выбараў галасаваць, — заявіла намесніца старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская.

Прадугледжваецца, што трэцім кандыдатам на бургамістра Гайнаўкі стане Ян Багінскі, прадстаўнік партыі Права і справядлівасць і ўсёй Аб'яднанай правіцы, які рэкамендуецца як менеджар па гасцінічным бізнесе. Аднак сам Ян Багінскі яшчэ не пацвердзіў сваёй кандыдатуры.

Дагэтуль сярод войтаў і бургамістраў Гайнаўшчыны толькі войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі заявіў рашуча, што не будзе ўжо змагацца за пасаду войта. Паводле першых інфармацый у Чаромхаўскай гміне зарэгістравана 8 мясцовых выбарчых камітэтаў, якія могуць прад'явіць кандыдатаў на пасаду войта. Прадбачваецца, што астатнія правячыя зараз у Гайнаўскім павеце войты і бургамістры будуць кандыдатамі на чарговы тэрмін. Разлічваецца, што ў спаборніцтве за пасады войтаў і бургамістраў паявяцца ім контркандыдаты.

### У Бельскім павеце

Беларускі выбарчы камітэт, які дзейнічаў у мінулым у Бельску-Падляшскім і навакольных гмінах (узначальваў яго Васіль Ляшчынскі), пераўтварыўся ў Бельскую кааліцыю, якая пасля была зарэгістравана і вядзе дзейнасць як Аб'яднанне «Бельская кааліцыя». Чатыры гады назад падчас самаўрадавых выбараў кандыдатамі са спіска Аб'яднання «Бельская каліцыя» былі цяперашнія войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк і бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі. Войт Бельскай гміны Раіса Раецкая на апошніх выбарах балатавалася ад выбарчага камітэта Хрысціянска-дэмакратычнага аб'яднання «Наша Падляшша». Ад аб'яднанняў «Бельская кааліцыя» і «Наша Падляшша» на пасаду старасты Бельскага павета быў выбраны Славамір Снарскі, а яго намеснікам стаў Пётр Божка.

— Мы хацелі б паўтарыць выбарчы поспех «Бельскай кааліцыі» чатырохгадовай даўнасці і пасля выбараў прадоўжыць супрацу з камітэтам «Наша Падляшша». Дасюлешняе супрацоўніцтва як у Радзе Бельскага павета, так і ў Радзе горада Бельск-Падляшскі надта плённае. Намесніцай нашага бургамістра Яраслава Бароўскага працуе прадстаўніца «Нашага Падляшша» Бажэна Звалінская, — заявіў шматгадовы радны Аляксандр Божка, член кіраўніцтва Аб'яднання «Бельская кааліцыя».

У Бельскім павеце беларусы пражываюць у значнай колькасці ў горадзе Бельск-Падляшскі, Арлянскай і Бельскай гмінах і тут у іх рэальныя шанцы мець сваіх бургамістра і войтаў гмін.

— Падчас бліжэйшых выбараў кандыдатам на бургамістра Бельска-Падляшскага ад «Бельскай кааліцыі» будзе цяперашні бургамістр Яраслаў Бароўскі, а кандыдатам на войта Арлянскай гміны будзе таксама цяперашні войт Пётр Сэльвесюк. Войт Бельскай гміны Раіса Раецкая чатыры гады таму назад балатавалася ад «Нашага Падляшша» і хіба зноў пойдзе на выбары як кандыдат на войта ад таго ж камітэта. Мы, Аб'яднанне «Бельская кааліцыя», ідзем на выбары самастойна і толькі пасля выбараў прадбачваем завязваць кааліцыі, калі будзе такая патрэба. У нашай «Бельскай кааліцыі» мы супрацоўнічаем з украінцамі і, між іншым, прадстаўніца ўкраінскага асяроддзя Марыя Рыжык з'яўляецца нашай павятовай раднай, — распавёў павятовы радны і заадно член кіраўніцтва Аб'яднання «Бельская кааліцыя» Васіль Ляшчынскі.

— Кандыдатам на бургамістра Бельска-Падляшскага падчас бліжэйшых выбараў, апрача правячага бургамістра Яраслава Бароўскага, мае быць гарадскі бельскі радны Тамаш Грынявіцкі (выбраны ў 2014 годзе ад Выбарчага камітэта выбаршчыкаў для Бельска, — А. М.), якога можа падтрымаць Паразуменне Яраслава Говіна і нават Права і справядлівасць і ўся Аб'яднаная правіца. Штораз часцей гавораць, што кандыдатам на бургамістра Бельска ад Саюза дэмакратычнай лявіцы можа быць юрыст Аркадзій Вашкевіч і можа паявіцца кандыдат на бургамістра ад «Нашага Падляшша», — сказаў мой суразмоўца з Бельска-Падляшскага.

Аднак ажно да 26 верасня зарэгістраваныя выбарчыя камітэты будуць маглі прад'яўляць тэрытарыяльным выбарчым камісіям кандыдатаў на войтаў і бургамістраў. Могуць паявіцца новыя кандыдаты ў Гайнаўцы, Бельску і гмінах Гайнаўшчыны і Бельшчыны або некаторыя з названых мною кандыдатаў могуць зняць свае кандыдатуры.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# Вейкі — і зноў тут



«Вейкі — Нарэйкі — Юшкаў-Груд — і зноў тут. Гэта адна з версій папулярнай прыказкі, якая ў нашых баках гучыць таксама Вейкі — Шымкі — Юшкаў-Груд. Такі слаўны трохкутнік!» — смяецца пан Янка з незарэчанскім прозвішчам, з-пад Бельска, але які мае тут крышку гаспадаркі, і летам сёе-тое ў яго тут расце. А на забаву ў Вейкі прыехаў. На другую, ужо агранізаваную не толькі самой вёскай, а Гміннам цэнтрам культуры ў Гарадку ды пры падмацоўцы міністра ўнутраных спраў Польшчы. Летась на імпрэзу сяляне скінуліся ўсе па 30 злотых, — ці то салідныя гаспадары, ці пенсіянеры з агародчыкамі, і баль атрымаўся быў на славу. А тут шыкуецца вялізнае мерапрыемства, на якое збяруцца госці не толькі з Гарадоцкай гміны. А дабрацца сюды, у гэты ражок гміны, за плотам якое пачынаецца Міхалоўская, рукой падаць да мяжы з Рэспублікай Беларусь, цяпер немагчыма, калі не маеш свайго аўто. Красуецца, праўда, новенькі, чысценькі, каляровы аўтобусны прыпынак пасярод доўгай вёскі з хутарамі-прысёлкамі, са шматлікімі акуратнымі муроўанкамі і драўлянымі хатамі — пасівелымі ў тутэйшай архітэктуры, і навейшымі пад адзін капыл — напалову пустымі — а нават на гуглаўскай касмічнай карце глянуць страшна — лес-лес-лес, поле — далёка! Але дабіраюся ў Вейкі на машыне Дарка Жукоўскага, падваршаўскага менеджара і аніматара культуры, якому нідзе не далёка — з’ездзім яшчэ ў Меляшкі, дзе цёткі завіхаюцца пры фларыстычных майстар-класах, перад Спленнем. Дарак папрэ яшчэ ў Случанку, дзе рыхтуюцца імяніны слаўнай Карповічавай Сонькі. А я пайду пад горку, на дарожку пазначаную шматлікімі каляровымі шарамі. Значыць, дзеці ў Вейках мелі ў школу пад горку, а шары, у колькасці 350, учора надзімала ўласнымі лёгкімі маладзейшая грамада вейкаўцаў, на чале з бадзёрай солтыскай (родам з Сямятыч) Івонай Бількевіч. Івона працавала ў ахове, цяпер на мужавай гаспадарцы, дык энергіі ў яе і задум поўна, каб разварушыць гэты ціхі закутак пасярод лясоў Кнышынскай пушчы.

Вейкі — пішуць у Вікіпедыі — каралеўская вёска заснаваная ў канцы васямнаццатага стагоддзя ў Ялоўскім старостве ў Ваўкавыскім павеце Навагрудскага ваяводства. У цяперашні час 168 чалавек насельніцтва, з чаго 50,6% гэта жанчыны, 49,4% — мужчыны. На тэрыторыі Веек знаходзяцца два прыродныя рэсурсы: возера Вейкі — водны прыродны запаведнік велічынёй 22,5 гектара, і Кнышынская пушча — абшар аховы птушак. Чыста, лёгка дыхаецца — першае ўражанне, увайшоўшы ў вёску разгайданым крокам, як сярод пагоркаў Кнышынскай пушчы. І акуратна. І калярова.

Найбольш калярова ад тых шароў, што вядуць пахілай сцежкай пад былую школу і за школу, дзе ўжо стаяць лавачкі для гледачоў. Там ужо чакае і сцэна, збудаваная на прычэпе ад машыны з гміннай гарадоцкай камунальнай гаспадаркі. А на пашарэлых сценах школы пан Юрка, пані Марыя Мялешка — мастачка з ГЦК і солтыска Івона ды Івона Новік, Юркава жонка, вешаюць карціны дзяцей — плён мастацкага пленэру, у якім прынялі ўдзел таксама бацькі. І нават войт Гарадоцкай гміны Вeслаў Кулеша ўзяў пэндзаль і намаляваў штосьці. І яму тутэйшая ваколіца блізкая — на палетках недалёкага Раманава гуляла ў дзяцінстве ягоная жонка.

— Гэта наша школа, у якую мы хадзілі. Яе будаваў наш дзед. А сёння мы ў ёй пагуляем. У наступным годзе гміна пачне тут рамонт, будзе тут наш цэнтр культуры, — перакрыкваюцца сябры з салэцкай рады, якія рыхтуюць месца пад івент. — Ужо прыдбаныя еўрасаюзныя грошы на яе. Ужо сёлета пачнуцца работы. І о так о, цяпер тут імпрэзкі робім. І я Івона, Івона, а не пані Івона. Казіка мама (мужа солтыскі) і мая — родныя сёстры. Дзе робім — на гаспадарцы, крыху дарабляем. І так «ляціць».

— А пані цяпер няхай раздзьмухае хмары, каб дажджу на было, — смяецца Юрка Новік. — Колькі ў нас людзей? Да выбараў запісаныя — 159 чалавек. Але дзяцей у нас — найбольш! І старэйшых у нас многа, на імпрэзу прыйдуць. Усе.

— І праваслаўныя, і каталікі — усе мы тут дружна жывем, — кажа Івона. — І плачам, і гуляем разам. Святы адсвяткоўваем разам. Мы тут гаспадарым, на сваім, але больш «пад узглендам Уніі», пару цялятак, поле — так даем сабе рады...



Генрыка Варона

Пакуль імпрэза — іду па вёсцы. Доўгая. Асфальт акуратны пасярод ляжыць. З правага боку — бурліць гаспадарка: у руху амаль усе машыны, прычэпы. Адзін трактар з прычэпам вядзе дробны юнак, ледзь відаць яго з-над руля. Уваходжу на падворак пад мураванкай з нумарам 33. З-за заслоны на дзвярах азываецца па-беларуску шчуплая бландзінка. Гэта і ёсць цешча Юркі, маці Івоны — Генрыка Варона. Ужо шыкуецца да свята.

— А на такую імпрэзу, вясковае свята, дык апрануцца трэба не горш чым у касцёл! — усміхаецца. І яна ваеннае дзіця — народжаная ў 1943 годзе. — А мая бабуля — з недалёкага Раманава, дык я ўжо тут як сваячка, і няма чаго тут польшчыць, як перад чужым чалавекам. — Да нас сюды не даедзеш, нічога не запыняецца. У царкву і касцёл дабіраемся ў Ялоўку, ля, дзевяць кіламетраў. Цяпер няма праблемаў, бо праве ў каждага ў хаце самаход. Мы старэнькія, але о ля маем самахода: пасядзем, у каждую нядзелю едзем. Мы каталікі, але многа ў нашай вёсцы праваслаўных. Жывем добро. З суседзямі харашэ, німа ў нас нічога благога. Цяпер то нас можа і пароўні, і праваслаўных, і каталікоў. Многа паўмірала. Маладыя павыязджалі ў Беласток, многа хатаў пустых. Але моладзі ў Вейкаў больш як у Падазеранах. Там, у суседняй вёсцы, ужо адно пару рольнікаў. Тут такіх як мая дачка Івона з Юркам будзе з дзевяць пар. І васямнаццаць ці дваццаць дзяцей. У мае дачкі трое было, сыну ўжо 22, дачцэ 19, другая пойдзе ў восьмы клас. У школу возяць у Гарадок. Аўтобус едзе ў Зубры, у Падазераны, да нас — забірае з Вейкаў. Гэта маё пакаленне хадзіла тут у школу, мая дачка з 1975 года — ужо ездзіла ў Гарадок. Еля таксама да Зуброў не хадзіла, бо наша школа была ўжо 1-4 класы. І закрылі, бо ўжо мала было дзяцей. Цяпер ведаеце, як — адзін настаўнік, адзін прадмет. Калі я хадзіла ў школу, адзін настаўнік вучыў усё. Наш настаўнік, Казёл, із Вейкаў паходзіў... Цяпер дзяцей з хутароў падвозяць у Вейкі, самаходамі, а школьны аўтобус забірае ў Гарадок, і ў чатыры прывозіць. А мы о тут — кошкаемся. І добра жыццё цяпер. Цешуся, і Богаві дзякую. Абавязку работы мы ўжо не маем, дзеці ўжо пажэняны, унукі пагадованы, мы двое — сякая-такая пенсія невяліка, але пражыць можна. Хатку паставілі, яшчэ як толькі пажаніліся. А ўжо 52 лет па вяселлі, медаля маем, ездзілі ў Гарадок, даў войт медаль ад прэзідэнта — дзесяць пар было тады нашых. А ці старэйшыя ёсць у вёсцы? Так, адна баба мае 92 лет, старэнькая, але розум мае моцны, хаця ўжо вельмі вычарпаная, худзенькая, благенькая. Я на здароўе не наракаю, от, вядома, не патанцуеш, не паскачаш, бо ўжо не той век. Але кажу да яго: пойдзем, трохі пабудзем, паўслухаемся, як будуць спяваць, падзівімся на людзей, людзі на нас...

... Солтыска Івона гаспадарыць, муж працуе ў Беластоку. Маленька гаспадарка, — карову трымае, пару цялят. Івона дынамічная, восьмы год ужо ў нас солтысам, кадэнцыя да сакавіка. Але пэўна зноў яе выбярэм у вёсцы, бо добра баба, заінцерасована ўсім, дзецям рабіла таксама мерапрыемствы. Яе муж даязджае штодзень на працу ў Беласток, 50 кіламетраў. Ну, але якое цяпер выйсце. Цяпер на гаспадарцы стаць — трэба брацца за добрую гаспадарку, а не на якіх дзесяці ці дванаццаці гектарах. Найменш трэба мець з восемдзесят гектараў. Машыны трэба. У нас е пару рольнікаў. Бачыла — там напроць школы. То е гаспадар! Яшчэ трох такіх моцных маем. А ён на кароў настаўлены. Але о — машыны мусіць усялякія мець, трактары, але. Мае чацвёра дзяцей, Аркадзік Цівонюк — ён праваслаўны. Узяў жонку, Мар’ёлю, егавітку, з дзецем. І сваіх чацвёра мае. Тыя пяцёра дзяцей, знаеце, такія адданыя да гаспадаркі! Няма такіх дзяцей, як у яго дзеці! Тры дзеўчыны, і кажда едзе трахтарам, кожная кішонку робіць. На падворку крыху парадку няма, бо і не мае калі рабіць, — самі ўсё абрабляюць. Панабіраў тае зямлі — хто яго ведае колькі тых гектараў мае... Не святкуюць ні нядзелі, ні свята. Хлопец наймалодшы ўжо хіба мае з васямнаццаць, ужо не маленькія памочнікі. Тут, ля, едзе з касілкай, тут бэлі складвае, тут вязе сцёкі выліваць... Я ўсё бачу з агарода — няма хвіліны, каб не завіхаліся тыя дзеці. Гадзіна пройдзе — ужо плугі падчэплены, — ужо едзе гараць. Тут косіць, тут возіць абірачкай — да поўначы рух у гаспадарцы, кладавяцца можа ў дзве гадзіны ночы. Яны найцяжэй робяць. На калёніі маем таксама двух гаспадароў, дояць кароў, а адзін яшчэ на футары. Наша вёска доўгая, пакідана па калёніях. У самой вёсцы можа пяцёх гаспадароў...

... Мы з мужам — аднагодкі, з 1943 года, ён са студзеня, я з лютага. Шэсць лет зналіся, пакуль пажаніліся. Але! Нярaз смяецца: «От папахадзіў! Шэсць лет!» Вёска тут, а на калёніі — далёка...... Мая сястра — свякруха солтыскі. Спакойная. Не тое што я — люблю гаварыць, люблю спяваць, люблю танцаваць, але праходзіць час. Нас усіх было васьмёра. Я наймалодшая з радзіны. Маем яшчэ сястру ў Аўстраліі. У мяне — дзве дачкі. Дачка, што жыве ў Беластоку таксама прыедзе на нашу вясковую імпрэзу. А маем мы ўжо праўнучку, тры гады ў чэрвені скончыла — Міхалінку, дачку ўнучкі Каралінкі. А дачка на вёсцы — мае трое...

У нас гаспадарка невялікая — пятнаццаць гектараў, з лонкай і з полем. Апісалі ўжо на дачку. Калісь то работа была — касілі касой, касілкай, пасля снапавязалкай. Малацілі — папаясі пылу! Шаснаццаць дзён трэба было адмалаціць. Пераважна я сама адмалочвала, бо муж рабіў на жандовых работах. Управішся ў хаце — ідзеш адмалочваць. Цяжка было. А цяпер што — прыедзе машына, сена звалуе, збэлюе... Цяпер ужо і цюкаў не робяць. Цяпер без машыны ніц не зробіш... Ну, ідзем на забаву, зараз будзе прамаўляць войт, солтыска, паслухаем!

Перад школай, ад самага пачатку шаравай сцежкі — госці з Мастаўлян, Меляшкоў, Гарадка, Баброўнік, Раманава... Усе святочныя, уцешаныя. Успамінаюць і іншыя гарадоцкія забавы. Былі вы ў Белявічах? Былі! Хораша гуляецца, успамінаюцца колішнія забавы, як іграў «Калакольчык» — Янка Карповіч, а бубніў Лёнік Тарасэвіч... О, была тая імпрэза лепшая чым нават у Залуках. А тут так хораша, свойска, і народу панаехала!

— Дзякуем вам за тое, што вы ёсць, бо калі б вас не было — не было б сэнсу арганізаваць такія сустрэчы, — хваліць баявітых вейкаўцаў дырэктар Гміннага цэнтра культуры — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку Юрка Астапчук.

— Шмат што адбываецца дзякуючы пані солтыс, салэцкай радзе, і ўсім жыхарам, — адзначае войт Вeслаў Кулеша, і абяцае, што вялікая былая школа, адноўленая, стане вясковым цэнтрам культуры ў Вейках. Задаволеныя гледачы з прыемнасцю паслухалі выступленняў усіх калектываў, якія гуртуе ГЦК, патанцавалі пры спевах і жартах гурта «Ас», пабяседавалі за столікамі і сталамі. Проста — вяселле ў Вейках! Праз год — і зноў тут!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Колькі можа вытрымаць конь беларускай пароды?

Працаздольныя, паслухмяныя і сумленныя — так у вялікім скарачэнні можна апісаць пароду коней, якая на працягу стагоддзяў фармавалася ў Беларусі. Амаль дваццаць гадоў таму той тып коней атрымаў назву «беларус», і невядома ці выжыве дзесяцігоддзі калгасаў і ўрбанізацыі ў Беларусі. Для некаторых гэта проста конь. Але для Якава Серафімовіча гэта самая лепшая парода ў свеце. І не толькі таму, што яна з'яўляецца адзінай нацыянальнай пародай у краіне, але і таму, што гэтыя коні сапраўды надзеленыя выдатнай прыгажосцю і сілай.



### Вялікая мяжа па Вялікім Супонцы

Да 1939 года туды пралягала мяжа паміж Савецкім Саюзам і Польшчай. Некаторыя гавораць, што мяжа праходзіла па астраўку, які знаходзіцца пасярэдзіне возера. На некаторых польскіх картах міжваеннага перыяду пазначана, што возеры Вялікі і Малы Супонец уваходзілі ў склад ІІ Рэчы Паспалітай.

— Я нават той астравок паміж азёрамі даследаваў. Нічога не засталося. Казалі, што там памежны слуп стаяў, але нічога такога там няма, — патлумачыў Якаў Серафімовіч.

Некаторыя гавораць, што ў міжваенны перыяд жыхары Скрабатуноў лавілі рыбу толькі да палавіны возера. Далей не запускаліся, лічачы, што за астраўком пачынаецца савецкая частка возера і лоўлі. Тая вада на той час дзяліла два светы. Свет беларусаў пад польскай акупацыяй і тых, якім прыйшлося жыць пад саветамі. На другім беразе Вялікага Супонца дарастаў вядомы класік беларускай літаратуры Васіль Быкаў.

— Частка сям'і Быкава засталася па тым баку возера. Яго дваюрадны брат часта гаварыў: «Мы тут усё мелі, а яны нават салому з крыш паз'ядалі. Перадаць буханку хлеба не было як». Мяжа.

Аднак людзі з суседняй вёскі Шо гавораць, што перад вайною, ноччу, вядомымі толькі мясцовым сцяжынкамі цётка Быкава, якая засталася па польскім баку возера, насіла ў Бычкі яду. Можна сказаць, што Вялікі і Малы Супонец гэта возеры, якія натхнялі пісьменнікаў, ахоўвалі кантрабандыстаў і захаплялі навукоўцаў. Адным з тых, які даследаваў згаданыя віцебскія азёры, быў бацька Якава — Аляксей Серафімовіч.

— Бацькі вучыліся на геаграфічным факультэце, а пазней працавалі ў лабараторыі возеразнаўства. Яшчэ будучы студэнтамі па гэтых азёрах каталіся, спазнавалі іх, — сказаў Якаў, гледзячы на бліскучае люстра вады. — Супонец... Таксама конская клічка. Супонь гэта рэмень, якім зацягваюць хамут на кані. Калі зверху паглядзець на карту, яно сапраўды напамінае хамут.

Пачынаючых вершнікаў Якаў забірае ў сваю любімую трасу. Тады на конях едуць вакол возера, далей невялікім перашыйкам, дзе заўсёды стаіць вада, між Вялікім і Малым Супонцам, і далей у напрамку Бычкоў — роднай вёскі Васіля Быкава.

### Калгасам ніколі не былі патрэбны «беларусы»

Хутар Скрабатуны да вайны быў вялікай вёскай. На ўзгорку недалёка возера стаяў панскі двор. Зараз аб яго багацці сведчаць толькі фундаменты, старыя яблыні і нейкая экзатычная расліна з чорнымі ягадамі, якой назвы зараз ніхто не ведае. Маёнтак разграбілі за савецкім часам. А вёску спалілі немцы. Таксама ў рамках новага парадку і калектывізацыі з хутара перасялілі тутэйшых гаспадароў. Мясцовых жыхароў зараз тут няма. Пастаянна ў Скрабатунах жыве толькі сям'я Якава. Усе апошнія гэта дачнікі.

— Я — мінчанін. Прыехаў, калі мне было 19 гадоў. З дзяцінства я ведаў, што буду жыць у вёсцы, — са спакойнай усмешкай патлумачыў Якаў. — Я займаюся конным спортам пад Мінскам. Адтуль засталася такая цікавасць і прывязанасць да коней. Пазней пачаў займацца каняводствам. І спачатку сам не ведаў, што існуе нейкая беларуская парода. Сапраўды, яна вельмі позна была зарэгістравана.

Гэтыя коні раней былі вядомыя як «ашмянскія». На іх аснове была выведзена беларуская парода. Афіцыйна яна была зацверджана толькі ў 2000 годзе міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання РБ. Беларускую пароду коней можна было б назваць адной з самых маладых парод у гісторыі конегадоўлі, калі б за ёй не цягнулася даўняя гісторыя. Аднак зараз яе лёс можа мець далёка нешчаслівы фінал.

— Гэтая парода мае прыкметы дзікіх тарпанаў. Захаваліся атавізмы, як цёмная палоска на спіне («рэмень»), ці палоскі на нагах таксама сведчанне роднасці з тарпанамі. Беларускую пароду коней выкарыстоўваюць перш за ўсё ў сялянскіх гаспадарках. Яна не стваралася для вялікіх калгасаў. Яна стваралася даўно. Для рэгістрацыі патрабавалася тысячы галоў, а зараз няма можа нават чатырохсот. Атрымліваецца, што не праіснаваўшы дваццаці гадоў іх ужо амаль няма.

У Якава ўсяго зараз дваццаць пяць коней, а чыстых «беларусаў» — дзесяць. Ахвотна прыязджаюць да яго дзеці на навуку язды, але таксама турысты. Нават з Масквы.

— Яны ў параўнанні з іншымі пародамі невялікія. Аднак калі гаварыць пра пералік на колькасць масы, яны самыя працаздольныя. Яны ўніверсальныя — да працы ў полі, да язды вярхом выдатныя, — расказвае Якаў, гладзячы гнядога каня па шыі. — Яны сапраўды як беларусы — працавітыя, спакойныя і сумленныя.

### Коні стварылі нашу цывілізацыю

Якаў перасяліўся на хутар у той час, калі ўсе ўцякалі з вёсак у такія гарады як Мінск. Зараз на беларускіх вёсках штораз часцей можна сустрэцца з гарадскімі, для якіх вёска стала сінонімам ідыліі і адпачынку ад гарадскога жыцця, ад шуму і мітусні. Прываблівае таксама адносна нізкі кошт хатак у параўнанні да цэн на жыллё ў горадзе. Скрабатуны выбралі для Якава яшчэ яго бацькі. Яны прадчувалі, што распад Савецкага Саюза прынясе вялікі абвал грошай. Вялікіх ашчаднасцей не мелі. Крыху рублёў ляжала на ашчаднай кніжцы. Хуценька гэтыя грошы знялі і выршылі купіць хату. Выбралі Віцебшчыну. Краіну азёр і іх студэнцкіх летнікаў.

Коні беларускай пароды такія невялікія, жылістыя, можна сказаць, зрэшты, як мы самі. Іх вельмі лёгка прывучыць да працы. Не было яшчэ такога, каб я меў праблемы з «беларусам», каб апрануць яму вупраж.

— Вось гэтай кабыле дваццаць тры гады і яна яшчэ вельмі жывая, — сказаў Якаў, адначасова адкрываючы ёй пысу, каб глянуць на зубы, па якіх вызначаецца ўзрост каня. — Але ж выгадавала ўсіх маіх дзяцей і ўсіх навучыла ездзіць. 23 гады мы разам. Дачцэ старэйшай дваццаць. Яна ў саўгасе працуе ветэрынарам. У Беларусі няма спецыялістаў па конскай ветэрынарыі. Мы спадзяёмся, што яна ім стане. Дзеці падалі, хадзілі па ёй — тая кабыла гэта ўсё вытрымала. Тая парода нездарма называецца беларускай. І мы такія па характары — вельмі талерантныя. Парода стваралася для народа. Мала што для народа стваралася ў нашай краіне.

❖Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ



## Не ўсім дазволена

13 ліпеня мне была назначана кансультацыя ў кардыёлага ў шпіталі ў Гайнаўцы. Паколькі я не карыстаюся ўласнай машынай, дык вымушаны наймаць прыватны аўтамабіль. Так заўжды было. Дочкі з унукамі адлучыліся, займаюцца сваімі справамі. Раней за мною наглядала старэйшая дачка, але па абмежаванні ёй «пазыкаў», адкінулася ад мяне. Малодшая дачушка з дзеткамі не ў змозе мною апекавацца, таму што працуе ды з Беластока далекавата даехаць. Застаюся затым адзінокім, як самотнік у келлі пустэльніка.

Патэлефанаваў я сябруку ў Чаромху з просьбай падвезці ў Гайнаўку. А калі выявіў мэту падарожжа, дык калега сказаў: «Пан Сідарук, патэлефануйце ў гміну да войта і папрасіце дапамогі. Гміна распараджаецца аўтамабілем для перавозу дзяцей і сеніёраў з абмежаваннямі. Павінен выручыць».Так я зрабіў. Праўду сказаўшы, шмат часу сцякло ад маёй апошняй сустрэчы і размовы з войтам Міхалам Врублеўскім. Вядома, здароўе пачало падводзіць. Больш часу сёлета бадзяюся па шпітальных палатах чым гасцюю ў хатнім ачагу. Мой суразмоўца, як заўжды сардэчна прывітаўся, але калі пачуў маю просьбу, дык зразу перамяніў тон. «Я дагэтуль, пан Сідарук, нікога прыватна не перавозіў і для вас не стану рабіць выключэння. Мяне чарамшанне з'елі б...». Не стаў я затым шукаць аргументацыі для сваёй просьбы, дык пачаў па даўнейшаму шукаць прыватнага перавозчыка. Больш паўсотні вылецела мне з партфеля. «Але не плаціць багаты, а вінаваты», — гаворыць прымаўка. Дык і я пагадзіўся з лёсам. А так паправдзе хацеў бы зараз запытаць спадара войта, для якіх мэт быў прызначаны гміне аўтамабіль «Жук» з еўрасаюзных сродкаў, хто ім распараджаўся і каго дагэтуль гміна ім перавозіла. Не разумею затым сказа «нікога не перавозіў». Няўжо аўтамабіль стаяў нявыкарыстаны?

З 1 ліпеня 2018 года ўступіў у сілу зменены закон аб «асаблівых» развязках падтрымкі для асоб са значным абмежаваннем. Паводле новых правілаў асобы са значнай ступенню абмежавання маюць магчымасць атрымаць неабмежаваны доступ да медычных вырабаў, рэабілітацыі, таксама да лекара-спецыяліста. Так гаварылі палітыкі Права і справядлівасці. Але, ці гэта не адно чарговая выбарчая каўбаска? Прыклад стаўлення чаромхаўскай гміннай управы да 78-гадовага адзінокага, няздольнага да самастойнага існавання чалавека гэтаму доказ. Законы пішуцца для «шэрай масы». Упраўляючыя і тыя «пры карыце» карыстаюцца прывілеямі вышэйшай касты. Значыцца, не ўсім усё дазволена!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Новыя прыстрэшкі



Зараз у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета многа новых прыгожых драўляных прыстрэшкаў на аўтобусных прыпынках ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту. Найбольш іх пры ваяводскай дарозе № 685 і павятовых дарогах. На працягу апошніх васьмі-дзесяці гадоў новыя прыстрэшкі пабудавалі, між іншым, у Нараўцы, Свінароях, Скупаве, Гарадзіску, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове (каля вялікай керамічнай фабрыкі), Міхнаўцы, Лешуках, Новай Луцэ, Семяноўцы, Тарнопалі, Забрадах, Альхоўцы, Гушчэвіне і Міклашэве. Усе яны ўзведзены за гмінныя фінансавыя сродкі.

Сёлета ў канцы жніўня ў Старым Ляўкове раскінулі стары (ён знаходзіўся побач царквы) і пачалі пабудову новага прыстрэшка на пляцоўцы, якая належала некалі да школы (на здымку). Гэта другі прыстрэшак на аўтобусным прыпынку ў вышэйзгаданай немалой вёсцы (яна налічвае 330 жыхароў).

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Новы год у Праваслаўнай школе

## Размова з настаўніцай беларускай мовы Іаапнай Марко.

**Зорка:** — ***У якім настроі пачынаеце новы 2018/19 навучальны год?***

**Іанна Марко**: — У вельмі добрым настроі. Не было мяне год, а такі вялікі перапынак дае вялікія магчымасці. Чалавек мае час падумаць, што можна новага зрабіць, што памяняць, што рабіць з таго, што было далей. Так што вяртаюся з галавой поўнай думак.

**Зорка:** — ***Брэнд вашай школы — беларуская дыктоўка ў Дзень роднай мовы?***

**Іаанна Марко:** — Дыктоўка, зразумела, будзе і яе падрыхтуем у новай форме. Гэта наш праект і многія, калі выбіраюць школу, думаюць пра беларускую дыктоўку. Маю надзею, што запросім новых людзей да ўдзелу і ўдасца нам зрабіць вельмі добрае мерапрыемства.

**Зорка:** — ***Вы не толькі настаўніца, але і мама, якая паслала дзіця на беларускую мову?***

**Іаанна Марко:** — Так, мая дачушка Веранiка ўжо другі год пайшла ў беларускае прадшколле. Я цешуся, бо яна спявае беларускія песні, ведае гульні і вельмі любіць свой садок.

**Зорка:** — ***Скажыце, як Вам удаецца падтрымаць сярод вучняў і бацькоў энтузіязм да беларускай мовы?***

**Іаанна Марко:** — Напэўна трэба многа рабіць, бо дзеці патрабуюць безупынна матывацыі. Трэба арганізаваць розныя мерапрыемствы, запрашаць людзей. Дзеці хочуць, каб нешта адбывалася. Але каб падтрымаць настрой, трэба паказаць ім сваё захапленне і любоў для беларускай мовы

**Зорка:** — ***Зычым Вам поспехаў і непаўторных мерапрыемстваў.***

**Іаанна Марко:** — Дзякуем і спадзяемся на плённае супрацоўніцтва з «Зоркай»!

* * *

Новы навучальны школьны год прывіталі мы ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Як сказала нам дырэктар школы, спадарыня Лена Лаўнічук, больш за 90 адсоткаў вучняў будзе вывучаць беларускую мову. Зараз пачатковая школа налічвае 160 навучэнцаў і 15 гімназістаў. Тры класы падвойныя. З гэтага года беларускай мове будзе навучаць тры настаўніцы: Іаанна Марко, Людміла Сегень і Юліта Сушч.



Іаана Марко з чацвёртым класам



**Зорка, фота ГК**

## УВАГА КОНКУРС! № 36-18

**Што за загадка,**
**Прашу адгадаць:**
**Пад латкаю латка**
**І швоў не відаць?**
**(к....)**

**(Ніл Гілевіч)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 15 верасня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 32-2018: хмары і дождж. Узнагароды, паштоўкі з беларускай сімволікай, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**


Паўліна Ёдла чытае свой верш сябрам

# «Ніва» ў кожным доме!

Прывітанне, сябры!

Зноў дачакалі мы новага 2018/2019 навучальнага года. Мы верым, што вы засумавалі па школе і «Зорцы», вярнуліся з новымі сіламі, амбіцыямі і праектамі. Новы год гэта шанс, каб пачаць усё нанова, вызначыць вартасныя задачы і цікавыя конкурсы, якія будуць спрыяць вашаму развіццю. Праўда, лецейка пакуль не адпускае, ды сядзець за школьнай партай не надта хочацца. Але мы верым, што ўсе клопаты і складанасці ўзнагародзіць радасць ад сустрэчы з сябрамі, супольныя прагулкі і мерапрыемствы.

Наша газета не застаецца ў даўгу. Спачатку хочам пахваліць нашых чытачоў, якія цягам канікул прымалі ўдзел ва ўсіх зорчыных конкурсах. Як год раней, тут вылучаліся вучні бельскай «тройкі», а асабліва Вікторыя Гаць, Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк. Мы верым, што час праведзены з беларускай газетай быў для вас прыемны і карысны. Малайцы!

Як кожны год мы падрыхтавалі вам новыя прапановы. Неўзабаве наладзім падвядзенне вынікаў конкурсу, прымеркаванага да стагоддзя БНР — «Мой герой — беларус». Узнагароджаныя творы прадоўжаць публікацыю юбілейных артыкулаў. Будуць таксама файныя ўзнагароды і публікацыя пра пераможцаў. Па жаданні чытачоў вяртаем рубрыку «Галерэя „Зоркі"», у якой будзем прэзентаваць энтузіястаў беларускага слова. Свае прапановы могуць ужо дасылаць настаўнікі і аніматары культуры. Працягнем таксама рубрыкі «Польска-беларуская крыжаванка» і «Загадкі з роднай хаткі». Сярод узнагарод мы прапануем дзіцячыя і маладзёвыя бестселеры на беларускай мове, беларускую сучасную музыку, рэквізіты з беларускай арнаментыкай, прылады для школы і інтэлектуальныя гульні.

Адводзім таксама шмат месца для маладых аўтараў, якія пад вокам вопытных журналістаў і пісьменнікаў будуць развіваць свае творчыя здольнасці. Каб зразумець, які ў нас патэнцыял, дастаткова зазірнуць у канікулярныя нумары «Зоркі». Вашы творы парадавалі не толькі аднагодкаў, але і дарослых чытачоў. Самых найлепшых аўтараў запросім на Сустрэчы «Зоркі». Ужо сёння можна прыняць удзел у Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Сёння напамінаем пра знакавыя мерапрыемствы, якія праводзіць наша рэдакцыя, хочам таксама адзначыць, што гэта прапановы адзіныя ў сваім родзе. Ніякія газеты ў рэгіёне не прысвячаюць столькі месца і ўвагі для маладых аматараў слова і ведаў.

Таксама на просьбу настаўнікаў прадоўжым цыкл з беларускай маляванкай. Як аказалася, гэтая рубрыка цешыць не толькі вучняў. Шмат жанчын, якія займаюцца вышыўкай і гафтам, капіруе нашы ўзоры. А яны сапраўды каларытныя і непаўторныя. Трэба ведаць, што іх прыдумалі мастакі на аснове вершаў беларускіх паэтаў.

І на канец яшчэ адна прыемная навіна. Для падпісчыкаў «Зоркі» далей будзе прамацыйная цана газеты. А падпісацца павінны ўсе! Чаму? Бо «Ніва» гэта крыніца ведаў і натхнення. Яна, як ікона і памяць продкаў, павінна быць у кожным беларуска-еўрапейскім доме.

**Ганна Кандрацюк,**
рэдактар «Зоркі»

## З народнага календара

Нашы продкі назіралі з'явы ў прыродзе і па іх прагназавалі будучае надвор'е.

Паназірайце і вы! Будзе відно, ці старыя метады падыходзяць да нашага часу. Апрача гэтага пабачыце, як прыемна назіраць і думаць пра родную прыроду!

* * *

Жоравы і лебедзі позна ляцяць у вырай — восень будзе цёплая і працяглая.

* * *

Добры ўраджай рабіны — на восень яркую, агніста-залатую.

(з-ка)


Першы ўрок у праваслаўнай школе. 3.09.2018

Артур Вольскі

## Зазвініць званок

Раніцаю ў школу мы прыйшлі ізноў.
Колькі тут вясёлых жартаў і размоў!
— Што рабілі ўлетку?
— Дзе былі сябры?
Гэты — на палетку. Гэты — у бары.
Той лугі абшарыў між высокіх траў,
Кветак на гербарый безліч назбіраў.
Адплывае ў просінь лёгкі туманок.
Сёння роўна ў восем зазвініць званок.

## Польска-беларуская крыжаванка № 36-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32-2018:**

Карта, крок, пас, арэшня, ар, ажыны, на, кабан, гліна, як, дыня, сена. Пан, карагод, акіян, кажан, рыба, арэна, шына, Ян, апякунка.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Wesoły | Dźwięk | Górka | | | |
| | Woda | Plac | | | Pułk | | | Gont | |
| Wy | | | Japonka | | | | | | |
| | Wiosło | | Sort / Łosoś | | | | | Krokodyl | |
| Tęcza | | | | | | | | | |
| | | | | | | | Bór | Ego | |
| Miotła | | My | | | Bierz | Bez | | | |
| Łąka | | | | | Nogi | | | | |
| | | No | | Koral | | | | | |

**Шаноўныя чытачы. Прапануем Вашай увазе чарговы фрагмент новай кнігі прозы Міхася Андрасюка пад загалоўкам «Поўня». Кніга будзе выдадзена нашай рэдакцыяй да канца гэтага года.**

# ПОЎНЯ

## -2-



Вакзалы сустракаюць, вакзалы праводзяць. Я думаў пра нечаканую сустрэчу і — што ні казаць — чаканае развітанне. Чаканае, бо абмінуўшы ўсё астатняе, якая ж сіла магла б, нават на кароткі час, звязаць у адзін вузел маю стабільную, халодную сівізну і яе аранжава-вогненную маладосць? Хіба што жартам лёсу.

Дзяўчына, задраўшы галаву, у тысячы чужых шляхоў, пракладзеных жалезнымі рэйкамі ў кожную кропку кантынента, з усходу на захад, з поўначы на поўдзень, шукала той адзіны, свой. Аранжавыя валасы рассыпаліся на зялёнай сукенцы, а на агародзе бабы Веры вырас сланечнік. На адзін міг апусціліся вейкі і стала дастаткова імгнення, каб разагнаны натоўп пераапрануўся ў шэрае. Вялікі шэры горад у завялікай шэрай вопратцы круціўся вакол сваёй восі, не здзіўляючыся сланечніку, не звяртаючы на яго ўвагі. Ён даўным-даўно згубіў свае агароды, выцісну натуральныя колеры далёка, у прастору недаступную сваім вачам.

Я адзін бачыў дзяўчыну ў зялёнай сукенцы, глядзеў на яе і дзесьці там, па-за свядомасцю, незалежна ад мяне пачыналася ціхая спрэчка магчымага з немагчымым. А што немагчымае? Тое, чаго не зможа падумаць думка? Няўжо такое існуе?

Зялёная сукенка знікла ў шэрым натоўпе на хвілін дваццаць, хвіліны зацягнуліся на ўсю вечнасць, а я чакаў колькі трэба чакаць, не губляючы ўпэўненасці ў яе вяртанне. Дзяўчына вярнулася. Усплыла на паверхню дня з ніадкуль, можна б падумаць, вырасла наўпрост з каменнага паркету. Дастаткова блізка, каб пачуць пах травы, мяты і сланечнікаў. І яшчэ — пах моху, што вырастае наўпрост з камянёў, аспрэчваючы такім чынам наша ўяўленне немагчымага.

Прагулялася колькі крокаў, шукаючы больш зручнае месца, дастала з заплечніка ноўтбук, сагнутую ў калені нагу паставіла на каменную спіну лавачкі. Паклала ноўтбук на сцягно, схіліла галаву. Аранжавы вадаспад пасыпаўся на грудзі, на сцягно, праз кругленькае, як камень абмыты вадой калена, слізгануў на лытку.

Я пачуў, як мой розум, цалкам адкрыта, нат не прыкідваючыся сябрам, выступае супраць мяне. Няхай яе цягнік спозніцца на гадзін дзве. Няхай яго цалкам адменяць. Хай, пакуль да акенца з надпісам „каса" падыдзе яе чарга, распрададуцца квіткі. Усе, да апошняга. Няхай добрая, ці злая сіла знясе ў нябыт чыгуначныя рэйкі па ўсёй краіне. І семафоры. І вагоны.

Мае малітвы не засталіся непачутымі. Дзяўчына ляпнула крышкай ноўтбука, закінула яго ў заплечнік. Не спяшаючы, нага за нагой кіравалася ў маім напрамку. Я зрабіў выгляд, што не чакаю яе, адвёў вочы, але ўсім сабою чуў і бачыў як набліжаецца.

Адсунула крэсла, прысела. Паміж шкляной стальніцай і каленямі заставалася дастаткова прасторы, каб мае вочы маглі свабодна коўзацца па яе абветраных, смуглявых сцёгнах, прыхаваных з большага пад кароткай сукенкай.

— А я квіткі набыла ў Маскву. У мяне там хлопец ёсць. І нават напісаць паспела. Буду праз тыдзень, чакай, сустракай.

Няўжо да мяне гэтыя словы? Навошта? Кпіць? Гуляецца? Канешне, і кпіць, і гуляецца. Беспамылкова прачытала мае дурацкія позіркі і цяпер, упэўненая ў сваёй небанальнай прыгажосці, пасылае адказ: «Ну што, дзядзенька, паглядзеў, палізаў праз шкло і хопіць, ідзі сваім шляхам. У мяне хлопец ёсць. У Маскве ён, не абы-дзе».

І што адказаць? Прамаўчаць? Прыкінуцца глухім? Схаваць твар за маскай здзіўлення, каменнай абыякавасці, даючы такім чынам знак, што яна, чытаючы мяне, усёткі памылілася? Бо насамрэч — мне ўсё адно. Або — на мове яе пакалення — да лямпачкі мне.

— Масква гэта крута, — нехта ўкраў мой голас і без дазволу скарыстаўся ім.

— Масква праз тыдзень. Я не ўпэўнена, ці яго кахаю. А ты, калі-небудзь кахаючы, быў у гэтым каханні няўпэўнены? Скажы, галава сівая. Напэўна ёсць жа пра што сказаць...

Слова „ты" прагучала ў яе вуснах натуральна, лёгка, без залішняй затрымкі. Мне спадабалася, што ўсё такое простае, я для яе не „вы", не „дзядзька", не „проша пан", як не раз, не два здаралася пачуць у водгук майму польскаму акцэнту. Нават „сівая галава" ў такім кантэксце прайшла міма вуха, не наносячы майму мужчынскаму эга значнейшай шкоды.

— Кахаць і сумнявацца... Не мы першыя, не мы апошнія, як кажуць разумныя людзі. Можна век пражыць і толькі здагадвацца — было каханне, ці не.

— Век пражыць? Надта доўга чакаць, мне трэба ведаць раней. А ў цябе было?

Што адказаць на такое пытанне? З чаго пачаць? Ці не са слоў пра сцежку, з якой саступаю заўжды, калі схіляецца яна да прывычкі, да манатоніі, да абыякавасці? „Не так. Абсалютна не так", — прашаптаў на вуха мой генетычны голас. І я сказаў:

— Іду, даганяю, трачу.

Я адмыслова скарыстаўся цяперашнім часам, дзе ўсё яшчэ працягваецца, хвіліна плаўна заходзіць у хвіліну, дзень у дзень і магчымы любы варыянт будучыні. Час прошлы завершаны, ён замкнуў бы мінёную частку мяне ў клетцы, зрабіў для яе чужой і недаступнай.

На маім доўгім шляху траплялiся жанчыны, якія жывуць па прынцыпе „або ўсё, або нічога" і цяпер, пакуль яна заставалася мне абсалютнай таямніцай, каб не зачыніць заўчасна ніводных дзвярэй, я сказаў менавіта так: іду, даганяю, трачу.

Нехта, назіраючы зводдаль, мог бы падумаць: „Вось яны, бацька і дачка, яна студэнтка, не мінская, ён наведаўся ў госці, цяпер яна праводзіць яго на цягнік". Але ж калі б назіральнік той сцярпеў яшчэ колькі хвілін, калі б не зводзіў нас з вачэй, пабачыў бы, як седзячы на крэсле яна закідвае нагу за нагу, левую на правае калена, затым, як у запаволеным кадры, правую на левае. Вусны расхіляюцца, нязначна, незашмат, праз белыя пацеркі зубкоў працiскаецца кончык языка і смачна аблізвае верхнюю губку. На адзін міг калені разбягаюцца на розныя бакі і гэтай кароткай хвіліны дастаткова, каб з-пад шкляной стальніцы белыя трусікі паспелі папесціць мяне цёплым дыханнем.

Колькі было гэтай дзяўчыне, калі Шэран Стоўн зіханула па вачах Майклу Дугласу пухнатым, трохкутным ліхтарыкам, ад чаго і яму, і ўсяму свету пераняло дыханне? Шэсць гадоў? Сем? Ці калі-небудзь яна глядзела гэтае кіно? Праўда, у Шэран пад сукенкай не аказалася нічога акрамя яе жаноцкасці. Тут — таямніца не раскрылася да канца, пакідаючы за белымі трусікамі апошні сказ, але ж сам палёт нагі над нагой, элегантны танец сясцёр-каленак, вусны спакуслiва расхіленыя кончыкам языка, усё гэта сэнсоўным робіць пытанне: «А мо сапраўды ёсць у жанчын свой асноўны інстынкт, адзін для ўсіх, нязменны, што спакон вякоў перадаецца з пакалення ў пакаленне?».

Мой час у Мінску з трох дзён вырас да шасці.

Колькі можна даведацца пра жанчыну цягам няпоўнага тыдня? А колькі на працягу года? А за ўсё жыццё? Ці нашмат больш за тое, што сама яна пра сябе захоча сказаць?

Адвячоркам першага дня я ведаў яе імя. Паспеў пазнаёміцца і з гісторыяй незвычайных валасоў — аранжавы колер яны ўзялі ад бацькі, а па маці густыя і кучаравыя. Там, дзе нарадзілася Юлія, Аргума — значыць Прыгожая. Або — Красавіца. Там, у Мардве.

— Ты напэўна і не здагадваешся, дзе яна, тая Мардва, — сказала.

Памылялася. На слова „Мардва", нешта ўва мне ўздрыганулася, у галаве блiснула думка схапіць за руку гэтую дзяўчыну, праскочыць вуліцу, забегчы на вакзал і ехаць, без канца, на ўскраіну вялікага лесу, дзе баба Вера, прысеўшы на запечку, паўсвятлом шэрай гадзіны размалёўвае маё дзяцінства. Але ж... Туды цягнікі не адпраўляюцца, механічным голасам адкажа акенка, дзе прадаюцца квіткі ва ўсе кропкі свету, а мне застанецца кіўнуць галавой і пацвердзіць: так, цягнікі ў дзяцінства не ходзяць, я ведаю.

— А вось, як не дзіўна, я ведаю дзе Мардва. Там засталася частка мяне.

— Гэта як? — ад здзіўлення вочы Юліі абярнуліся кругленькай, пухнатай птушкай і прыселі на маіх вуснах. — Няўжо камандзіроўка і пазашлюбнае дзіця?

— Не, не тое. Другім разам, — я ўхіліўся ад адказу, памятаючы пра візу, што абмяжоўвае час да шасці сутак і не пакідае ні хвіліны ў запасе.

— У нас будзе другі раз? — цяпер яе вочы спыніліся на маіх вачах.

— Хочаш?

Прыкусіўшы верхнюю губку, з-за злёгку прыжмураных веек глядзела мне проста ў твар.

— Хачу? Не хачу? Не ведаю.

А мне хацелася слухаць яе. І я слухаў. Ёй дваццаць два, студэнтка і абсалютна не разумее навошта апынулася ў гэтых сцэнах, а ў Маскве ёсць хлопец і вельмі-вельмі яе кахае. Ён кахае яе, як ніхто ніколі ў свеце. Гэтыя словы прыбягаюць да яе кожнае раніцы, а яна песціць манітор тэлефона і ўсміхаецца. Ці яна кахае яго? Учора не, сёння так, заўтра ізноў не. Яе каханне ідзе босымі нагамі па сінусаідальнай хвалі. Ці пераправіцца на шчаслівы бераг? Ці знікне, як камень у ваду? Пакуль не ведае, што ад гэтага знаёмства атрымаецца, тым не менш, раніцой яна прашаптала ў доўгае вуха інтэрнэту: „Буду праз тыдзень, чакай, сустракай". І ён чакае. Ён часцей цяпер правярае гадзіннік і з кожнай хвілінай менш у ім яго, і ўсё больш чакання. Заўтра з раніцы да ночы ён будзе хадзіць ад акна да акна. Паслязаўтрашні дзень поўнасцю адвядзе на прыборку кватэры, затым, чарговыя дні будзе ўпрыгожваць спальню яе ўлюбёнымі пахамі. За дзень да яе прыезду сходзіць у вялікі супермаркет, дзе вочы разбягаюцца ад каляровых этыкетак, аўстралійскае віно перакідваецца словам з іспанскім, французскае шампанскае ходзіць у пары з партугальскім партвейнам, а тэкіла з далёкай Мексікі ўсяго праз паліцу мяжуе з балканскай ракіяй. Ён праігнаруе ўсе этыкеткі і набудзе араматычнае зёлкамі італьянскае „марціні". Яна абажае „марціні" і ўжо праз тыдзень будзе піць яго, седзячы вечарам у мяккім фатэлі, з адмысловага куфля на доўгай ножцы, што трымае чашу ў форме павернутага дагары нагамі трохкутніка. „Марціні" можна і не класці ў халадзільнік, дастаткова закінуць у куфель тры кубікі лёду. Можна да кубікаў лёду дакінуць марожаную вішню, а можна і не, але хлопец прыўважыў, што яе вусны ад марожанай вішні, як не дзіўна, робяцца больш цёплыя і яшчэ больш пухнатыя.

Міхась АНДРАСЮК

**2 верасня ў сяле Студзянкі, што ў Васількаўскай гміне, адбыліся гмінныя дажынкі. Студзянкі — даволі вялікае сяло, гэта амаль мястэчка з некалькімі вуліцамі ды з некалькімі, а канкрэтна ў цяперашні момант — з двума солтысамі, а дакладней — з дзвюма солтыскамі, таксама; магчыма, што з прагрэсам гэтыя колькасці будуць буйнець...**


■ Малебен

# Сельскія дажынкі

Паводле абнародаванай на стэндзе ў цэнтры сяла легенды, колішні свет поўніўся маленькімі пасёлкамі і вёсачкамі, распаложанымі здалёк ад гасцінцаў і галоўных дарог. Месца сённяшняй вёскі Студзянкі займала старая пушча. Раслі ў ёй розныя дрэвы: векавыя стройныя сосны, барадатыя елкі, магутныя дубы, цвёрдыя разгалінастыя ясені, грабы, вязы, белыя бярозы і мноства меданосных араматных ліп. Непраходныя гушчары скрывалі мноства сакрэтаў і з'яўляліся бяспечным жытлом зуброў, ласёў, аленяў, тураў, мядзведзяў, дзікоў і ўсялякай меншай жывёльнай усячыны. Цераз нетры працiскалася лясная пуціна, якою валакліся гандляры, паломнікі і вандроўнікі. Нагружаныя коні неслі на сабе ўюкі ды здарожаных ездакоў. У ходзе знемагальнай вандроўкі спыняліся яны пры студзёнцы — крынічцы, якая вылівалася з глыбіні зямлі. Крынічка была распаложана ў засені прыгожага ўрочышча. У час супынку падарожныя паілі коней, абмываліся з поту і пылу, падсілкоўваліся і адпачывалі. Назапасіўшыся вадою, падаваліся ў далейшае падарожжа. З ходам часу пры крынічцы сталі паяўляцца хаціны. Пасяленне сталі называць Студзёнкай. Цягам гадоў пасяленне разраслося ў буйную вёску. Яе жыхары абраблялі зямлю, займаліся бортніцтвам і дойлідствам, а вёску сталі называць Студзянкамі...



■ „Каліна"



■ „Жураўінкі"

Я тут вярнуся ў яшчэ больш сівую даўніну. Калі Усявышні стварыў першага чалавека, пабачыў, што яму замінае адна скаба. Тады выняў яе. Але тая скаба, што раней замінала знутры, цяпер стала замінаць чалавеку звонку; мова пра жанчыну. Для прыкладу — Міра Лукша. Яна ведае амаль усіх людзей у ваяводстве і амаль усе людзі ў ваяводстве ведаюць яе. І паведамляюць ёй пра розныя мерапрыемствы. Вось нядаўна Віктар Бура паведаміў ёй пра народны фэст у Бахурах, а яна — каб я туды ехаў; такім вось кіданнем калод пад ногі і займаюцца жанчыны. А вазьмі ж і паедзь, калі туды публічны транспарт дабіраецца ў такую пару, якая ніякім чынам не зладжана з праграмай мерапрыемства. Ну, і не паехаў. І тэлефануе пасля той наш спадар Віктар Бура і з мінорам у голасе пытае, ці быў я на тым фэсце; а вазьмі ж і паедзь туды. То зноў чарговую калоду пад ногі кідае мне і пасылае мяне тая ж Міра Лукша на дажынкі ў Студзянкі менавіта, бо ў гэты раз паведаміла яе студзянкаўская солтыска Яўгенія Гурко.

Ну, Студзянкі не за такімі гарамі, як Бахуры. Ну, паехаў. Сюды публічныя аўтобусы ездзяць крыху больш зладжана з праграмай сёлетніх гмінных дажынак, аднак жа спазніўся я на пятнаццаць хвілін. Падумалася мне, што мерапрыемства распачнецца, як звычайна ў нас, з візантыйскай пунктуальнасцю, значыць з больш-менш пятнаццаціхвілінным спазненнем, аднак пачалося яно па-еўрапейску. Такім ладам зажынкі пачаліся да майго там з'яўлення; магчыма, што такі парадак быў вынікам сёлетняга стаханаўскага ходу мясцовых кліматычных падзей, дзе вегетацыйныя працэсы адбыліся датэрмінова...

Трапіў я акурат на экуменічнае кароткае набажэнства, пасля якога адбылася непрацяглая афіцыйная частка з удзелам прадстаўнічых асоб усіх уладных ярусаў, з міністэрства пачынаючы. Быў менавіта зачытаны ліст ад віцэ-міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Яраслава Зялінскага, пасля было выступленне віцэ-маршалка Падляшскага ваяводства Мацея Жыўны, а пасля беластоцкага павятовага старасты і васількаўскага мэра. Міністр Зялінскі паведамляў пра поспехі цяперашніх улад, а маршалак Жыўна пра свае повязі з Васількаўскай гмінай, адкуль пачалася ягоная службовая і сямейная кар'еры, у тым ліку і зачатак тройцы дзяцей. Чарговыя выступоўцы жадалі чацвёртага, бо паводле ўладальных планаў чацвёрка дзяцей мае даць ход у кагорту пенсіянераў...

Варта яшчэ згадаць пра выступленне Валянціны Адамскай, якая старшынюе ваяводскай управе нейкай жаночай арганізацыі. Яна паведаміла, што вядучыя месцы ў конкурсе дажынкавых вянкоў у ходзе сёлетніх ваяводскіх дажынак, якія — першае і другое месцы — занялі вянкі звітыя студзянкаўскімі рукадзельніцамі, гэта ў вялікай ступені ейная заслуга, бо была яна ў конкурснай камісіі і дамаглася таго, што перамаглі менавіта „нашы" вянкі. За сваё трэба змагацца і такая дзелавітая жанчына як спадарыня Адамская паставіла ўсё на адпаведныя — прызавыя — месцы...

А пасля пачалася мастацкая частка дажынак. Выступілі калектывы „Мальвінкі" са Студзянак, „Дамброўка" з суседніх Дубровак, „Васількавяне" з Васількава, „Чарна Ягода" з Чорнай-Беластоцкай, „Тэнча" з Тшцянага, „Жураўінкі" з Агароднічак, „Каліна" з Залук ды „Яжэмбіна" з Каракуляў. Назвы калектываў прымерканыя акурат да навакольнага раслiннага свету... Спачатку паплылі прымерканыя да мясцовых мясцовасцей стылізаваныя на мазавецкія польскія прыпеўкі. А ўжо „Тэнча" заспявала „Яжэмбіну чэрвону", прыпеў спяваючы — разам з публікай — у арыгінале. „Жураўінкі" і „Каліна" праспявалі папулярныя беларускія песні, у тым ліку і пра *чарку аглаблёвую*. У скокі пайшлі жанчыны з Тшцянага. А мастацкая частка мерапрыемства завяршылася маскоўскімі хітамі. Такое было мульці-мерапрыемства — мастацкая частка сельскіх дажынак у Студзянках.

Акурат запар з завяршэннем гэтай часткі ўрачыстасцей настаў момант ад'езду майго аўтобуса ў Беласток. Такім чынам я на ўсім мерапрыемстве не быў, віна-мёду не піў, па вусах не цякло і ў роце не было. А што пачуў і пабачыў, тое тут вернянька пастараўся апісаць.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг шчы цяжка сабе ўявіць, што дзяржава змагаецца з пальшчызнай, а ў Беларусі з'яўляецца гэта «нармальным».

**Павел Мажэйка** звяртаў увагу: «Мы жывем у Беларусі ў расійскай інфармацыйнай прасторы. Не хапае сіл для стварэння беларускай прасторы, таму што не прабіваецца ў свядомасць беларусаў. Гэта дзяржава павінна паспрабаваць выйсці з гэтай расійскага прасторы. Узнікае пытанне: «А чаму не хоча?». У пачатку неабходна стварыць беларускія школы».

Мікола Ваўранюк, журналіст беларускіх медыяў у Польшчы, у тым ліку нашай рэдакцыі, у дыскусіі звярнуў увагу на тое, што Сяргей Дубавец сказаў што «Ніва» перастала быць — з пункту гледжання Мінска, як я добра зразумеў — культура-нацыястваральнай, што больш засяроджваецца на справах мясцовых. Мне хацелася б тут парафразаваць словы Сактара Яновіча: «Кожная нацыянальная меншасць такая, як і большасць», такая, якое стаўленне да яе большасці. Кожны аўтсайдэр, ці эмігрант, ці ўнутраны эмігрант, ці наогул нейкі маргінал, робіцца такім, як да яго ставіцца большасць, ці цэнтр. Я думаю што тут Беласточчына Мінску непатрэбная, не заўважае прысутнасці беларусаў тут, ну можа па-за тым, што прысылаюць сюды нейкія фалькпорныя ці псеўдафальклорныя гурты ці інструктараў, якія дарэшты выкараняваюць мясцовы фальклор і псуюць узор нейкіх народных святаў. І ні «Ніва», ні Беласточчына ім непатрэбная. Жывем тут як два асобныя светы. «Наша ніва» апісала Беласточчыну, «Ніва» выдала кнігу «Беларусь на старонках „Нівы"», і апісвалі гэта як штосьці несваё, іншае.

У дыскусіі пра культуру ў шырокім разуменні дыскутавалі Алена Макоўская — лінгвіст, прэзідэнт Міжнароднага згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Валянцін Акудовіч — мінскі філосаф, эсэіст і пісьменнік, Андрэй Дурэйка — мастак, мастацтвазнаўца, пражываючы ў Дзюсельдорфе і Лявон Тарасэвіч. **Алена Макоўская** падкрэсліла: «Беларуская дыяспара за мяжой гэта вялікі актыў Беларусі (за межамі Беларусі пражывае каля 3,5 мільёна беларусаў). У той жа час закон «Беларусы за мяжой», уведзены пры Лукашэнку, мае толькі дэкларатыўны характар, а дзяржаўная праграма «Беларусы ў свеце» накіравана да асяроддзяў за межамі беларусаў лаяльных да тамашняй улады. **Андрэй Дурэйка**, кажучы аб становішчы неакадэмічных беларускіх мастакоў пераканаы: «Яны навучыліся жыць без падтрымкі беларускай дзяржавы». **Лявон Тарасэвіч**, кажучы аб прысутнасці яго творчасці ў Беларусі, заявіў: «У цяперашні час мы не мусім быць патрэбныя адзін аднаму. Гэтай дзяржаве непатрэбнае развіванне інтэлекту. Мастацтва, якое мы робім, з'яўляецца непажаданым. Беларуская дзяржава не чакае ад яго, што можа служыць развіццю дзяржавы». Ён нагадаў 80-я гады мінулага стагоддзя ў Польшчы, калі многія мастакі спраўляліся без дапамогі дзяржавы, не ўдзельнічалі ў афіцыйным мастацкім жыцці, але адчувалі адказнасць за польскае мастацтва, а яно функцыянавала неафіцыйна, і выжыла. Сцвярджаў, што будучыняй беларускага мастацтва з'яўляецца дыскурс беларускіх мастакоў па-за межамі Беларусі і «іншымі», а затым стварэнне новых каштоўнасцей.

«Мы эмігранты інтэлектуальныя — не палітычныя ці эканамічныя, якія паехалі туды, дзе можна развівацца і рабіць у мастацтве тое, што хочацца. Калі адчуваеш сябе еўрапейцам, у інтэлектуальным сэнсе не існуе ніякіх межаў». Спаслаўся на **Сакрата Яновіча**, які хоць ствараў у Крынках, не мог бы развівацца без кантакту са «знешнім светам», з Ежы Гедройцам, Адамам Міхнікам ці Яцкам Куранем. У гэтым сэнсе быў ён свайго роду аўтсайдарам. Так, як ім з'яўляецца Тарасэвіч.

**Валянцін Акудовіч** у сваю чаргу, нягледзячы на мноства перакораў, даказваў: «Якая б мова была ў Беларусі, будзе беларускі народ. Руская мова ў Беларусі з'яўляецца мовай зносін, і а беларуская з'яўляецца каштоўнасцю, і гэта вельмі важна, каб беларуская мова захавалася як менавіта скарб. Расія не зменіцца, а гэты скарб застанецца, незалежна ад таго, ці будзе паўсюдный мовай. Калі беларусы перастануць гаварыць па-беларуску, будуць па-беларуску маўчаць... Практычна ўсе мы аўтсайдары, усе мы жывем у глабальным свеце. Уваходзім у абсалютна новую эру цывілізацыі».

— Беларуская культура і літаратура надалей малавядомая ў Польшчы і важную ролю ў яе прасоўванні можа адыграць наш рэгіён, — лічыць выдавец **Анджэй Каліноўскі** з Фодну «Суседзі» і адзначае: — Нашым абавязкам ёсць тое, каб палякі ўбачылі, што хоць некалькі беларускіх імёнаў вартых таго, каб аб іх размаўляць і расказваць пра тое, што гэта важнае для разумення Усходу і нашых супольных рэляцый. Трыялог вельмі істотны не толькі ў інтэлектуальным жыцці Польшчы і Беларусі...

**Яраслаў Іванюк**: «Нам самім трэба вырашыць, ці мы якраз, беларусы замежжа, гэта тыя адкіды, лупіны і смецце, ці ўсё ж тая найбольш шматколерная абалонка таго райскага яблыка».

З 31 жніўня да 30 верасня ў Галерэі Крынкі працуе выстава «Пра-бел», арганізавана адмыслова для XIX Трыялогу ў Крынках і з'яўляецца сегментам шматгадовага даследавання Андрэя Дурэйкі, прысвечанага беларускаму мастацтву за мяжой. Куратар выставы Андрэй Дурэйка (нарадзіўся ў Гародні ў 1971) — мастак, куратар. Ён аўтар лекцый пра сучаснае беларускае мастацтва, вядзе штомесячную хроніку падзей актуальнага беларускага мастацтва за мяжой для альманаха «pARTisan», збірае архіў беларускага сучаснага мастацтва. Удзельнік арт-групы «Revision». Вучыўся ў Мінскай мастацкай вучэльні ім. А. Глебава, Беларускай акадэміі мастацтваў, скончыў Дзюсельдорфскую акадэмію мастацтваў. З 1998 года жыве і працуе ў Дзюсельдорфе ў Нямеччыне. Выстаўку і яе рознасюжэтных выдатных аўтараў варта асабіста наведаць кожнаму, хто цікавіцца мастацтвам.

На заканчэнне Трыялогу з канцэртамі выступілі **Галіна Чыкіс** і група «**Port Mone**».

Арганізатар 19 Трыялогу: Фонд «Віла Сакратас» у Крынках. Суарганізатар: Падляшскі музей у Беластоку. Новы нумар «Annus Albaruthenicus 2018» будзе выдадзены дзякуючы фінансавай падтрымцы Фонду «ПКО Банк Польскі». Партнёры: Гарадская ўправа горада Крынкі, Гмінны асяродак культуры ў Крынках, Беларускі інфармацыйны цэнтр.

**Міра ЛУКША**




# http://uzdalib.by

Сярод сайтаў бібліятэк невялікіх мястэчак Беларусі цяпер даволі цяжка знайсці такі, на якім бы панавала беларуская мова. Гэта — беларуская рэчаіснасць, дзе знішчэнне беларускай мовы, нягледзячы на нейкія чуткі пра „мяккую беларусізацыю", не спыняецца ні на хвіліну. Праўда, гісторыя сведчыць, што гэтае знішчэнне за ўсе мінулыя стагоддзі не дало рады. Беларуская мова жыве, хоць і не тым жыццём, якога яна вартая. І тое, што беларуская мова камусьці ў Беларусі яшчэ патрэбна, сведчыць беларускамоўны сайт Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Паўлюка Труса.

Дадзены сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://uzdalib.by і ўяўляе з сябе спакойную зялёнага колеру старонку, на якой размешчана эмблема з надпісам: „Уздзеншчына. Там, дзе Нёмана вытокˮ.

Сайт мае мноства выйсцяў на розныя рубрыкі, а вось галоўная старонка цікавая навіннай інфармацыяй. Сярод такіх паведамленняў прыемна бачыць наступную: „Паважаныя чытачы, у фонд бібліятэкі паступіла поўнае выданне дакументальна-мастацкай хронікі нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч „Галасы Утопіі". Пяць кніг, напісаных у адметным жанры шматгалосых раманаў-споведзяў, дзе з малых падзеяў складваецца вялікая гісторыя", — паведамляюць нам супрацоўнікі бібліятэкі. Калі пра паступленне кніг Алексіевіч захочацца даведацца больш падрабязна, то, клікнуўшы на словы „чытаць падрабязней", нам „распавядуць", што гэта апошняя аўтарская рэдакцыя цыкла ў найноўшым беларускім перакладзе, без цэнзурных правак, куды пісьменніца дадала новыя эпізоды і звесткі з уласнага дзённіка.

Калі ж захочацца даведацца аб гісторыі гэтай установы культуры, то варта будзе зазірнуць на старонку „Пра бібліятэку", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выялення. Там распавядаецца, што першая бібліятэка з'явілася на Уздзеншчыне ў 1919 годзе, а ў 1960 годзе ёй прысвоілі імя Паўлюка Труса. „Была не толькі ўшанавана памяць паэта-земляка, але і адзначаны адзін з галоўных накірункаў работы бібліятэк Уздзеншчыны — краязнаўства", — адзначаецца на сайце. Апошняя звесткі пра гісторыю бібліятэкі датуюцца 2015 годам. Паводле іх, бібліятэка мае ўніверсальны фонд, які налічвае звыш 42 тыс. экзэмпляраў дакументаў: кнігі, часопісы, газеты, электронныя выданні і інш.

Праўда, хоць у сваёй „гістарычнай" рубрыцы супрацоўнікі бібліятэкі хваляцца, што маюць 12 камп'ютараў, 4 шматфункцыянальныя ўстройствы, ксеракс, каляровы прынтар, факс, брашуратар, ламінатар, высакаскарасны доступ да інтэрнэту, дзе дзейнічае зона WI-FI, спроба зайсці ў электронны каталог на сайце аказалася няўдалай. Старонка, як аказалася, знаходзіцца ў распрацоўцы.

Уздзенская бібліятэка існуе не сама. Яна мае філіялы па цэлым раёне. Гэта сельскія бібліятэкі і бібліятэкі аграгарадкоў (своеасаблівых буйных вёсак). Але чамусьці на старонках, дзе пазначана іх кантактная інфармацыя, усё толькі па-руску. Паўстае пытанне, няўжо беларускую мову ў вёсках на Уздзеншчыне не ведаюць?

Нельга не адзначыць station... 

Нельга не адзначыць становўчага і вельмі важнага моманту працы бібліятэчнага сайта — навіны на ім абнаўляюцца з пастаяннай перыядычнасцю. Прычым адлюстроўваюць яны дзейнасць дадзенай бібліятэкі. Апошнія такія навіны пазначаны нядаўна мінулым жнівенем.

**Аляксандр ЯКІМЮК**




# 125 гадоў з дня нараджэння Юзюка Фарботкі

Беларускі паэт, літаратуразнавец, перакладчык, фатограф, удзельнік грамадска-палітычнага руху Беларусі пачатку XX стагоддзя Юзюк Фарботка нарадзіўся 5 верасня 1893 г. у мястэчку Налібакі (сучасны Стаўбцоўскі раён). Паходзіў з сям'і Аўгустына і Ганны з Вярыгаў. Меў трох братоў: Антона, Яна, Пятра і пяць сясцёр: Мар'ю, Юзэфу, Ганну, Стэфанію і Зоф'ю. У 1914 г. скончыў Мінскую класічную гімназію, да 1918 г. вучыўся ў Кіеўскім універсітэце на фізіка-матэматычным факультэце. У гады Першай сусветнай вайны на фронце загінуў яго родны брат.

У 1916 г. удзельнічаў у працы клуба „Беларуская хатка". У 1918-1920 гг. — актыўны ўдзельнік беларускага палітычнага і культурніцкага руху ва Украіне і ў Мінску. У гэты час удзельнічаў у дыпламатычнай місіі БНР, якая вяла перамовы з Украінскай Народнай Рэспублікай у Кіеве. Перапісваўся і сустракаўся з беларускімі дзеячамі — Ядвігіным Ш., Зоськай Верас, Алесем Бурбісам, Змітраком Бядулем, Альбертам Паўловічам. У 1919 г. працаваў акторам у „Беларускім савецкім тэатры". Супрацоўнік літаратурна-асветніцкага аддзела Наркампраса Літоўска-Беларускай ССР — у Мінску і Бабруйску. У 1920 г. адміністратар Беларускага тэатра ў Мінску. У 1920-1924 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце, пасля працаваў там выкладчыкам заалогіі.

Першыя вершы Фарботка надрукаваў у „Нашай ніве" ў 1912 годзе — „Зацьмене" і „Зруйнаваў". Наступныя публікаваліся ў іншых беларускіх выданнях: „Лучынка", „Беларусь", „Вольная Беларусь", „Сьветач", „Беларускі шлях", „Белорусское эхо", „Школа і культура Савецкай Беларусі". У 1920 г. у Менску выйшла друкам яго кніга „Беларусь у песьнях". Пераклаў урывак з „Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча на беларускую мову. У 1922 г. пра Фарботку згадвае Яўхім Карскі ў трэцім томе „Беларусаў". У сваёй творчасці Фарботка арыентаваўся на Максіма Багдановіча, з якім, па некаторых ускосных звестках, быў асабіста знаёмы. У 1918 г. на смерць Багдановіча Фарботка адгукнуўся эмацыйным вершам-санетам „Памяці Максіма Багдановіча". Выступаў у перыядычным друку з матэрыяламі пра ўнармаванне беларускага правапісу. У літаратурна-крытычным артыкуле „Згукі сусветнай вайны 1914-1918 гадоў у беларускай паэзіі" падкрэсліў антываенны характар многіх твораў айчыннага вершаскладання.

Фарботка быў жанаты з дачкой Альберта Паўловіча — Уладзіславай. У 1932 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працаваў таксама ў Ваяводскай управе ў Вільні ў сельскагаспадарчым аддзяленні. Займаўся мастацкай фатаграфіяй і дзеяў у вядомым „Віленскім фотаклубе" Яна Булгака, быў адным з яго заснавальнікаў. У хроніцы фотаклуба запісаўся як яго скарбнік, удзельнік шматлікіх агульнапольскіх і міжнародных фатаграфічных выставак і конкурсаў. Скарбнікам быў праўдападобна да 1938 г., калі заступіў яго на гэтай пасадзе Войцех Буйко. У 1938 г. у конкурсе „Прыгажосць Вільні і Віленшчыны" („Piękno Wilna i Wileńszczyzny") атрымаў узнагароду.

Пасля вайны арыштаваны і высланы ў Данбас. У канцы 1945 г. пасяліўся ў Лодзі. Пра польскі перыяд жыцця Фарботкі доўгі час было вядома вельмі мала. Гэтыя прабелы біяграфіі адшукала гісторык Лена Глагоўская, якая знайшла нямала цікавых фактаў з пасляваеннага жыцця Фарботкі ў Польшчы. Ён надалей застаўся апантаным аматарам мастацкай фатаграфіі.

Памёр Юзюк Фарботка 8 чэрвеня 1956 года ў Лодзі. У 1993 годзе ў родных Налібаках у яго гонар адчынены памятны камень з шыльдай.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Рэалізацыя задач і выкарыстанне сродкаў ПФРОН на Гайнаўшчыне

Павятовы цэнтр дапамогі сям'і ў Гайнаўцы з'яўляецца бюджэтнай адзінкай Павятовага старосtargets і рэалізуе задачы павятовага самаўрада ў сферы:

1) сацыяльнай дапамогі,

2) прафесійнай і грамадскай рэабілітацыі, таксама працаўладкавання асоб з абмежаваннямі,

3) успамагання сям'і і сістэмы заступнай (часовай) працы,

4) супрацьдзеяння насіллю і гвалту ў сям'і.

А вось як рэалізаваліся задачы ў сферы выдаткаў Дзяржаўнага фонду рэабілітацыі асоб з абмежаваннямі (ПФРОН) у мінулым годзе і сёлета (стан на 4 ліпеня) у Гайнаўскім павеце.

**2017 год**

У мінулым годзе Павятовы цэнтр дапамогі сям'і (ПЦДС) атрымаў разам 1 074 492 злотых на рэалізацыю задач з ПФРОН, з таго на прафесійную рэабілітацыю прызначана 70 864 зл. (6,60% ад агульнай сумы), грамадскую рэабілітацыю — 1 003 608 зл. (93,40%) у тым ліку:

а) даплата для ўдзельнікаў рэабілітацыйнай змены — 80 000 зл. (7,45%), у тым ліку для дзяцей — 39 246 зл. (3,65%);

б) рэабілітацыйны рыштунак — 5 602 зл. (0,52%);

в) артапедычныя прыстасаванні — 305 270 зл. (18,41%);

г) стварэнне безбар'ернага асяроддзя — 46 876 (4,36%);

д) тэрапеўтычныя майстар-класы — 569 860 зл. (52,10%).

**2018 год**

1) Прафесійная рэабілітацыя. Задачу рэалізуе Павятовае ведамства працы. План — 92 500 злотых, выкарыстана каля 70 000 зл., у тым ліку кампенсацыя аднаго месяца працы для асобы з абмежаваннямі.

2) Грамадская рэабілітацыя. Задачу рэалізуе Павятовы цэнтр дапамогі сям'і:

а) кампенсацыя велічынёю 279 930 злотых для цякучых дзеянняў тэрапеўтычных майстар-класаў, якімі займаецца Праваслаўны Свята-Троіцкі прыход у Гайнаўцы. У занятках удзельнічае трыццаць пяць асоб з абмежаваннямі;

б) даплата для ўдзельнікаў рэабілітацыйнай змены асоб з абмежаваннямі. План — 50 000 зл., выкарыстана больш за 45 000 зл. У гэтым годзе ўспамогу атрымаюць адно дзеці (такімі крытэрыямі пакарыстаўся ПЦДС). Нястача сродкаў на даплаты для ўсіх ахвотных;

в) падтрымка мерапрыемстваў з галіны спорту, культуры, турызму і адпачынку, арганізаваных няўрадавымі арганізацыямі — 6 000 зл. Дамова была падпісана на выкарыстанне гэтай квоты з Гайнаўскім колам Саюза польскіх настаўнікаў;

г) кампенсацыя выдаткаў на ліквідацыю функцыянальных бар'ераў. План — 50 000 зл., заключаны дамовы на 45 000 зл.;

д) даплата да закупкі артапедычных прыстасаванняў і рыштунку — 313 931 зл. Дагэтуль выдаткавана 150 000 зл.

Пры такім ходзе выдаткаў прадбачваецца, што сродкі будуць выкарыстаны на зломе лістапада і снежня гэтага года.

❖**Уладзімір СІДАРУК**

# Імяніны Сонькі

30.09.2018, гадз. 14.00-18.00

Месца: «Мост імя Сонькі і Ёахіма» на рацэ Супраслі

Каля Случанкі і Каралёвага Стойла

У выпадку дрэннага надвор'я: вясковая святліца ў Случанцы

Арганізацыя:

Гурток Вясковых гаспадынь «Алі Бабкі» і Дарыюш Жукоўскі

Са Слоўніка імёнаў:

Соня (агульнапрынятая форма) — форма «Соня» з'яўляецца рускім аналагам польскага ласкальнага імя «Зося».

Імяніны адзначае 30 верасня.

***Соня — жанчына дынамічная, актыўная і вельмі актыўна ўдзельнічае ў дзеянні. Да ўсяго, што робіць, падыходзіць вельмі адказна. Памяркоўная, валодае добрай інтуіцыяй і добра ўмее прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя. Людзі сапраўды яе любяць і цэняць яе за тое, што робіць. Мае вялікі тэмперамент, і ў той жа час вельмі добра кантралюе сябе. У дзяцінстве можа мець выхаваўчыя праблемы. У яе ёсць прыроджанае чуццё дыпламатыі. Вельмі цікаўная да свету. Вельмі кампанейская і пастаянна атачаюць яе прыязныя людзі, якіх на самой справе шмат, і ніколі не скардзіцца на адзіноту. Цэніцца перш за ўсё яе вернасць, міралюбнасць і буйны тэмперамент, які спрычыняецца да таго, што нікому з Соняй не сумна, але ў той жа час у тыповай для сябе манеры заўсёды ў стане падтрымліваць здаровую ўмеранасць і не бывае, каб перабольшвала ў забаўках ці для забавы ставілася да чагосьці з непатрэбнай рызыкай. У дружбе і любові верная.***

Сонька — галоўная гераіня кнігі Ігната Карповіча пад аднайменным загалоўкам. Беларуска, жыхарка вёскі Каралёвае Стойла каля мітрапольнай Случанкі. Жанчына, якая ад часу вайны жыла адна, без сям'і. Лічылі яе шаптухай і не любілі.

*«Яна магла кінуць чар на карову, каб тая здохла. На мацёру, каб апарасілася мёртвымі парасяткамі. На маладую, каб да вяселля асыпала яе прышчамі, а саскі ёй апухлі да памеру байкаватага рыжыка».*

**Імяніны** гэта абычай святкавання (часам даволі буйнага) дня святога заступніка з хрысціянскага календара або іншага дня, традыцыйна прыпісванага таму імю. З хрышчэннем пад гэтым імем спалучалася вера, што дзіця будзе мець рысы свайго нябеснага патрона.

Дзень імянін спалучаецца з пажаданнямі і ўручэннем падарункаў імяніннікам.

*Мы хочам 30 верасня 2018 года запрасіць знаёмых, сяброў, суседзяў і ўсіх іншых, да супольнага святкавання на мосце. Мост з'яўляецца месцам сустрэч. Наш мост і гісторыі, звязаныя з ім, часта поўныя любові і радасці.*

«Калі мы не мелі прыстойнай святліцы, то тут праводзіліся забавы, танцы. Так, тут, на мосце. Колькі мы тут выпілі самагонкі! У нас быў музыкант з Каралёўшчыны. На мастку ўсё дзяцінства, квітнела каханне», — кажа пані Аня са Случанкі.

«Ці гэты мост для нас важны? Вельмі важны. Калі б не ён, не перайшлі б да сваіх хат у Каралёвым Стойле. Мая бабця жыла ў Каралёвым Стойле, мая мама, і я таксама з гэтай вёскі», — кажа пані Галіна.

Пасля ўдалага названня мосту цяпер хочам, каб ажыла традыцыя супольных сустрэч на мосце.

Сардэчна Вас запрашаем.

❖**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**

# Адгаданка

1. сібірскі лес, 2. камплект ігральных карт, 3. насенне хлебных злакаў, 4. Анатоль, паэт з Гарошкава (1959-2005), 5. егіпецкая рака, 6. найменшая колькасць энергіі, 7. горад у Англіі (51°53' пн. ш. і 0°25' з. д.), 8. сукупнасць псіхічных уласцівасцей чалавека, якія праяўляюцца ў яго паводзінах, 9. агульная колькасць галоў жывёлы, 10. гаршчок са сплаву жалеза з вугляродам, 11. Рычард, імпічментаваны прэзідэнт ЗША ў 1969-1974 гадах, 12. колішняе мястэчка на ўсходзе Міхалоўскай гміны.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | | | | | 3 | | | | |
| | | | | | | | | 4 | | | | |
| | | 5 | | 6 | | | | 7 | | 8 | | |
| | | 9 | | | | 10 | | | 11 | 12 | | |
| | | | | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Аўт, банк, Жан, „Іж", Іоў, нага, яхта.

Рашэнне: **Кожная хата ў жніўні багата**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 09.09 — 15.09

**Баран (22.03. — 20.04.)** Праблемы могуць цябе на хвіліну прыгнесці. Цяжка будзе злавіць табе дыстанцыю і запанаваць над нервамі. 8-10.09. магчымыя канфлікты з сябрамі і партнёрам. Самотныя Бараны падвядуць рахунак сумлення. 10-14.09. пільнуйся, каб не захапіла цябе пустая ахвота імпанаваць іншым. Зварот у кар'еры. Ад 11.09. праводзь важныя размовы і сямейныя імпрэзы. Дзецям дай час прывыкнуць да новых сітуацый. Лепшая форма.

**Бык (21.04. — 21.05.)** З новымі планамі не варта чакаць. Шыкуецца прыліў грошай, а барометр пачуццяў паказвае добрае надвор'е. 9-13.09. добры час прызнацца ў каханні, заручыцца. 10-14.09. новае пачуццё трапіць у цябе нечакана. На працы давярай супрацоўнікам. Важныя і адказныя задачы, старайся справіцца з імі да 22.09. Добрая форма, але пільнуйся.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Зваліцца на галаву мноства спраў, прыдасца добрая арганізацыя. Будзеш мець ураджанне хаосу і што ўсё ўцякае табе з-пад кантролю. Магчымыя непаразуменні з сям'ёй і з сябрамі. 9-10.09. магчымае расстанне. Сям'і прамоў да розуму. Будзеш прыдзірлівы і цікаўны, можаш натрапіць на нейкую афёру, раскрыць памылкі, з-за якіх фірма мае страты. Не еж тлуста.

**Рак (22.06. — 23.07.)** Няма падстаў для наракання на працу, атмасферу дома і на партнёра. Можаш зверыць планы. 9.09. магчымы кепскі настрой; не рашай нічога пад уплывам эмоцый. 10-14.09. вылечыш сваё зламанае сэрца. 13-15.09. не дай падстаў для плётак; легкадумнасць будзе многа каштаваць! На працы пасядзіш «па гадзінах». 9-10.09. творчыя задумы, новыя праекты. Момантамі мала энергіі, лёгкія захворванні.

**Леў (24.07. — 23.08.)** У першыя дні паніжэнне энергіі. З 11.09. арганізм набярэ сілы да рэгенерацыі. Цікавейшае жыццё. Увесь месяц капрызная Фартуна. Адвага рабіць тое, чаго раней не пасмеў. 9-13.09. чакае цябе фінансавы поспех; важныя рашэнні. Не стаў спраў рубам. 10-14.09. у пары этап аднаўлення старога захаплення. Хтось з блізкіх заспее цябе сенсацыйнымі весткамі, рыхтуйся да падзеі!

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Усё ўдасца! Трымай спакаваную валізку, цяжка будзе табе ўседзець на месцы. 9-10.09. адна твая задума адменіць усё тваё жыццё. Хаця 9.09. страціш многа часу невядома на што. 10-14.09. хтосьці з Дзеў можа пераканацца, што асоба з пары — гэта не тая адзіная. 13-15.09. хтосьці цябе захопіць розумам і ўмелымі кампліментамі. Пасля 11.09. стома — вазьмі пару дзён выходных.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Усё будзе па-твойму, але супакой эмоцыі і захавай светлы розум. 9-10.09. здзейсніш свае фантазіі. Але энегретычна (аж да 22.09.) едзеш «на рэзерве», і настрой ненайлепшы. 10-14.09. — кепскі час для закаханых; лепш не плануй рамантычных сустрэч. Увогуле час ненайлепшы для рашэнняў, але да іх рыхтуйся, назірай за сітуацыяй, прыглядайся да рынку, рыхтуй Сі-Ві. Адпылі старыя задумы — у апошняй дэкадзе верасня іх выкарыстаеш.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Краса, вабнасць. 10-14.09. ты як магніт для другога полу. 9-10.09. прыцягвай не толькі сексапілем. 10-12.09. добра можаш прадаць жыллё, 10-14.09. зрабіць рамонт. За свае мары варта пазмагацца. Твая фізічная энергія — бязмежная! Настрой добры. Ворагі маюць у руках ружжо супраць цябе, але Юпітар дасць табе шчыт. 9-13.09 час асабліва карысны для рэалізацыі планаў і намячэння новых мэт. На працы трымай язык за зубамі. Рэкламуй сябе ў інтэрнэце.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** 3-13.09. з'яднаеш да сябе людзей. Рэалізуй доўгатэрміновыя праекты. Будуць шматлікія перашкоды ў рэалізацыі мараў, але выйдзеш з усяго са шчытом. 13-15.09. напружанні ў пары. На працы дробныя крокі замест рэвалюцыі. Будзеш моцны, здаровы, толькі 14-15.09. нават не слухай аб хваробах.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Лады з атачэннем. Раскрунешся ў кампаніі, здабудзеш сімпатыю. Не пераймайся зашмат працай. З 11.09. станеш больш кампрамісным. 9-10.09. станеш бліжэй да аб'екта свайго захаплення. 10-14.09. захопіш каго хочаш. Знойдзеш крынічку дадатковых даходаў. Але 10-14.09. лёгка можаш выдаць усю заплату!

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** 10-14.09. лепш не хадзі па крамах! Выйграеш, калі будзеш хуткім. Будзеш адважным, валявым, энергічным. Узрасце тэмпература пачуццяў з 11.09. Дома крыху замяшання. На працы адазвуцца назавершаныя справы. 10-14.09. прыглед зься сваім фінансам, пашукай ашчаднасцей, заінвестуй напрыклад у нерухомасць.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 9.09. не ляпні чаго ў кампаніі. Можаш цяпер сустрэць сапраўднае каханне. 9-13.09. добра адпачні, загуляй. Пільнуй здароўе. 10-14.09. зоркі падкажуць у што інвеставаць. 13-15.09. звяртай увагу на дэталі, каб цябе не ашукалі. На працы пакажаш, што можаш, станеш наперадзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Грушка — святое дрэва Камянецкай зямлі (2)

Раней пра «Грушку» я думала жывымі расказамі вясковых жанчын. У іх заўсёды адчуваўся пошум старой пушчы, які сам па сабе явіўся абяцанкай аздараўлення. Здавалася, жанчыны, якія краем лесу дабіраліся да святыні, размаўляюць з ветрам і дрэвамі. У гэтым жывым ланцугу няшчасцяў і цудаў запамяталася постаць няшчаснай маладзіцы з Капылоў. Яе трохгадовы сынок не хадзіў. І родная маці параіла ёй:

— *Дочэнька, іды з Васею под Грушку.*

Жанчына ўзяла дзіцятка на спіну і адправілася краем лесу. Здавалася, дарога выцягнулуся ў бесканечнасць. Слабасць і кволасць дзвюх безабаронных істот зразу адчула прырода. На «бясконцым» шляху множыліся перашкоды. Няшчасце і гора мае той спецыфічны пах, які прыцягвае ўсякай масці паразітаў і крыважэрных пачвар. Яны першыя знюхаюць бяду.

Вось-вось, пакаўзнецца нага і будзе лёгкая здабыча...

Следам паломнікаў гудзеў адчайны плач маленькага Васілька. Дзіця верашчала як на пагібель. Ніякія жэсты і словы не былі ў змозе суцешыць, супакоіць малога. Ведзеная голым мацярынскім інстынктам жанчына ўсё ж дабрыла на святое месца. Праўда, яна мала што памятала са сваёй дарогі. Напаўпрытомная і агаломшаная прыліпла да Грушкі, прачытала малітву. І згодна з радай маці завязала аброчную ленту на дрэва.

Мудры пушчанскі народ не ідзе па помач з пустымі рукамі. Ён абавязкова нясе аброк, дары ў выглядзе стужак, ручнікоў, ікон, а ў сучасны момант ролю аброка выконваюць грошы...

У прыведзенай гісторыі цудоўны працяг.

Да дому жанчына вярнулася з новай сілай і надзеяй у сэрцы.

— *Я сама нэ шла, мэнэ несло!* — успамінала яна пасля гадоў.

Трохгадовы Васілёк таксама супакоіўся і праспаў усю зваротную дарогу. З таго часу стаў папраўляцца, ступіў на ногі і пачаў хадзіць, а пасля стаў бегаць і скакаць. Ды вырас на людзей. «І Слава Богу», — падводзіць усё ананімны інфарматар з тых жа Капылоў.

* * *

А ўжо тое, што пабачыла я на свае вочы, ніяк не падыходзіла да вобразаў складзеных з аповедаў і запісаў цудаў. Найбольш не хапала лесу. Краявід уяўляў сабой прамысловы ландшафт. На лугах, быццам змутаваны мегабоб, тырчалі цюкі, агорнутыя ў белую фольгу. Іх празмерная колькасць наводзіла нездаровыя думкі пра скажонасць прыроды. Але ў калгасе, дзе ўсё трымаецца на каровах, ганарыліся ўдачай.

— Гэта ўжо трэці пакос, — скажа мне сакратар Вярховіцкага сельсавета.

Першы раз я пабачыла Грушку праз акно маршруткі, якая разам з лічанай колькасцю пасажыраў імчала з Брэста ў Вярховічы. Па дарозе я пазнаёмілася з дзядзькам з Пяшчаткі.

— У мяне дваюрадны брат у Чаромсе, — заявіў ён. — Іванюк яго завуць, ён чыгуначнік.

Мой субяседнік, як сучасны дзелавы беларус, быў апрануты ў спартовы касцюм, праз плячо ён перавесіў лёгкі партфель і напамінаў валютчыка.

— А вы прыязджаеце ў Чаромху?

— А навошта? — здзівіўся ён, — ужо амаль нічога не дазваляюць перавезці праз мяжу.





Кантакт з чаромхаўскай сям'ёй падтрымліваюць па тэлефоне.

— А вы разумееце, як я гавару па-свойму? — спытала я.

— *Канешна, всё панімаю...* — зноў усміхнуўся мой новы знаёмы. — Мы нават жартуем, што нашы сваякі гэта такія «праваслаўные католікі».

Дзядзька, як першы чалавек, ведаў пра Грушку. Ён параіў ехаць у Вярховічы. Дзякуючы падказцы я папала пад крылы царкоўнай старасты Веры. Пра гэту жанчыну і цуды, якія спазнала яна ў сваім жыцці, можна напісаць асобную кнігу. Але спачатку я пазнаёмілася з Валянцінай Анатольеўнай, якая разам з пляменнікам-інвалідам вярталася той жа маршруткай ад лекара з Высокага. Хлапец абапіраўся на дзве зношаныя кульбакі і ледзь ставіў крокі. Задачай спадарыні Валі было давесці яго дамоў. Але жанчына, калі пачула пра Грушку, адправіла інваліда ісці дамоў самога.

— *Ідзі помаленьку!* — прыказала з чуласцю.

Адразу з прыпынку мы пайшлі ў стары дом насупраць царквы, дзе завіхалася царкоўная стараста. Цётка Вера, бо пра яе мова, кожны дзень прыязджала на аўтобусе з Каленкавіч, аддаленых на сем кіламетараў, каб даглядаць парадак у парафіі. Сёння яна сачыла за працаўніком, які без энтузіязму гробся лапатай у гравіі і цэменце. Яго задачай было заліць новы падмурак. Яго жэсты выяўлялі крайнюю ляноту і абыякавасць для працы. Быццам заставілі працаваць за кару, да таго пад канвоем строгай бабы Веры.

— А дзе ваш бацюшка? — спытала я ўражаная пабачаным.

— Ён жыве ў Берасці, — паяснілі жанчыны. — Тут, у Вярховічах, няма дзе спыніцца на жыллё. Дык рамантуем гэты будынак пад плябанію.

* * *

Пра святасць Грушкі, на роўні з аздараўленнямі і цудамі, ідуць расказы пра пакаранне, якое сустрэла тых, што знішчалі Святое месца.

Валянціна Анатольеўна добра памятае як у пачатку 1960-х гадоў зруйнавалі месца. Па сённяшні дзень у вачах стаіць адна жудасная сцэна.

— А я была ў другім ці трэцім класе, — успамінае жанчына, — ды мала што разумела з таго, што адбываецца. Але ж уразіла гурба крыжоў, якія звезлі на школьны пляц, парубалі і спальвалі ў печы. Тады старыя людзі перасцерагалі, каб не дакранацца да драўніны і нават не глядзець у той бок: «Не лезь, бо рукі пасохнуць!».

А крыжы сапраўды маглі складаць агромністую гурбу. На старых здымках дзве траціны тэрыторыі Святога месца займалі высокія драўляныя крыжы. На многіх віднеў разны надпіс: *ЗА ЗДРАВІЕ*. Іх вырывалі разам з грушкай і рашылі спаліць якраз у школьнай кацельні. Фатальная задума адразу выйшла бокам. Як галосіць чарговая народная легенда, ад гэтага агню і дыму ўчадзелі дзеці ў інтэрнаце. Ледзь адратавалі ахвяр фатальнага загаду. Інфармацыя пра ўчадзенне не зафіксаваная ў афіцыйных дакументах. Таксама як расказ пра нейкага Сафрона, які разам з іншымі актывістамі знішчаў Грушку. У яго былі тры дачкі, дык адна дачка, якая працавала настаўніцай, утапілася ў калодзежы на сваім панадворку. Іншы прапагандыст атэізму, які тады працаваў у вярховіцкім клубе, паехаў на балота і раптам памёр. У Вярховічах па сённяшні дзень вераць, што не памёр ён натуральным чынам. Каго б не спытаць, як памёр той культсветработнік, кожны адкажа на сцішанай ноце: «Вядома як! Чэрці замучылі!».

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 36